Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 39 (4788) 3 кастрычніка 2014 г.



Торыі Кіёнага «Чацвёрты месяц».
З серыі «Дванаццаць месяцаў у раёне Мінамі».
Аркуш з дыпціха. 1784 г.

У Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь адкрылася выстаўка «Эда. Сталіца і эпоха. Японская гравюра укіё-э XVIII — XIX стагоддзяў са збору Дзяржаўнага Эрмітажа».

Артыкул чытайце на стар. 16 ▶



















## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў удзельнікаў IX Міжнароднага фестывалю Юрыя Башмета з адкрыццём форуму. Адзначана, што сярод нашых землякоў нямала выдатных кампазітараў і выканаўцаў, чый талент заваяваў міжнароднае прызнанне. Форум атрымаў пастаянную прапіску на беларускай зямлі, і гэта з'яўляецца яшчэ адным сведчаннем вялікага аўтарытэту Беларусі ў музычным свеце.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў народнага артыста СССР Алега Басілашвілі з 80-годдзем. «У Беларусі вы набылі вялікую папулярнасць і прызнанне як цудоўны артыст, чыя натхнёная праца садзейнічае ўмацаванню адзінства народаў нашых краін», — падкрэсліў Кіраўнік дзяржавы.

✔ Унікальныя выданні прадстаўлены на выстаўцы «Беларуская кніга са старажытнасці да нашых дзён», якая адкрылася днямі ў Санкт-Пецярбургу. Наведвальнікі пазнаёмяцца з рэтраспектывай беларускай кнігі — ад Полацкага Евангелля XII ст. да твораў сучасных беларускіх паліграфістаў.

✔ Выканаўцы з Беларусі, Латвіі і Расіі возьмуць удзел у канцэртах XXVIII Гарадскога фестывалю-свята аўтарскай песні «Віцебскі лістапад», які пройдзе ў абласным цэнтры з 17 па 19 кастрычніка. У праграме фестывалю — конкурс аўтарскай песні па наступных намінацыях: аўтар, выканаўца, дуэт, ансамбль. Узнагароджанне пераможцаў і канцэрт з удзелам лаўрэатаў пройдзе 19 кастрычніка.

✔ Сёння ў Музеі гісторыі горада Гомеля адкрываецца выстаўка работ удзельнікаў I Міжнароднага АРТ-пленэру «Новая плынь». Адначасова дадзены старт II Міжнароднаму АРТ-пленэру «2014 — Год гасціннасці», які пройдзе ў пасёлку Чонкі Гомельскага раёна. Сёлета распачаўся маштабны арт-праект «ART-RAIN», разлічаны на 5 год. У Беларусі будзе рэгулярна ладзіцца па два арт-пленэры. Па выніках праекта плануецца выдаць каталог лепшых работ і прадстаўляць перасоўныя выстаўкі з карцінамі ўдзельнікаў.

✔ Выстаўка сучаснага мастацтва «Avant-gARTe. Ад квадрата да аб'екта» пачне працаваць у Музеі гісторыі Магілёва. Экспазіцыя была створана сталічным Музеем сучаснага выяўленчага мастацтва і аб'яднала ў адзінай прасторы творчую садружнасць беларускіх мастакоў-авангардыстаў розных пакаленняў і эпох — ад 1980-х да 2010-х гадоў.

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**6 кастрычніка** — *на прэзентацыю кнігі празаіка, паэта і кінарэжысёра Дзмітрыя Міхлеева «Вось зямлі», якая будзе ладзіцца ў Доме літаратара (вул. Фрунзэ, 5). Пачатак а 18-й гадзіне.*

**7 кастрычніка** — *на пасяджэнне літаратурнага клуба «Пад белымі крыламі», якое пройдзе ў гімназіі-каледжы імя І. В. Ахрэмчыка (вул. Макаёнка, 4). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**7 кастрычніка** — *на свята паэзіі і песні «Пад адным небасхілам», прысвечанае Беларусі, Расіі і Украіне. Імпрэза адбудзецца ў Доме дружбы (вул. Захарава, 28). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**8 кастрычніка** — *на свята духоўнай паэзіі і музыкі, якое пройдзе ў межах «Дзён праваслаўнай культуры» ў дзіцячай бібліятэцы № 5 (вул. Русіянава, 48). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**9 кастрычніка** — *на літаратурнае свята «Маладыя крылы», на якім будуць уручаны ўзнагароды пераможцам і лаўрэатам гарадскога літаратурнага конкурсу, прысвечанага 70-годдзю вызвалення Беларусі і Вялікай Перамогі. Мерапрыемства адбудзецца ў Доме літаратара (вул. Фрунзэ, 5, 2-і паверх, Мемарыяльная зала). Пачатак а 16-й гадзіне.*

# Кніга як шлях да прагрэсу



Фота з сайта tmgid.cc

**24 — 26 верасня прадстаўнічая беларуская дэлегацыя ўзяла ўдзел у IX Міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы і навуковай канферэнцыі «Кніга — шлях да супрацоўніцтва і прагрэсу», якая традыцыйна праходзіць у сталіцы Туркменістана — Ашхабадзе. Арганізатары — Туркменская дзяржаўная выдавецкая служба і Гандлёва-прамысловая палата Туркменістана. На стэндзе Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь наведвальнікі змаглі пазнаёміцца з навінкамі Выдавецкага дома «Звязда», прадпрыемства «Макбел», выдавецтваў «Мастацкая літаратура», «Беларусь», «Вышэйшая школа», «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» і іншых выдавецтваў нашай краіны. Удзел у ашхабадскай выстаўцы ўзяў таксама Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Туркменістане Алег Табанюхаў.**

### ДЗВЕРЫ АДЧЫНЕНЫ ДЛЯ ЎСІХ!

Выстаўка ў Ашхабадзе праводзіцца дзявяты год запар. Арганізатары заўсёды запрашаюць да ўдзелу Беларусь. У 2009 годзе наша краіна з'яўлялася ганаровым госцем форуму. Сама ідэя правядзення такога шматпланавага прадстаўлення кніжных навінак акрэслівае шырыню абсягаў мерапрыемства. Да ўдзелу ў выстаўцы сёлета было запрошана 25 краін. Свае экспазіцыі разгарнула больш як 170 паліграфічных, выдавецкіх структур. Туркменістан ахвотна вывучае сусветны досвед. І ў многіх кірунках дзеліцца сваімі здабыткамі. Традыцыйна ўважлівыя да выстаўкі расіяне. Гэтым разам былі дэлегацыі з Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя М. В. Ламаносава, Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта друку імя І. Фёдарава.

З Украіны прыехалі супрацоўнікі Украінскай Акадэміі друку. Упершыню ў выстаўцы брала ўдзел Албанія. Шмат цікавага можна было знайсці на стэндах ЗША, Вялікабрытаніі, Аўстрыі, Германіі, Расіі, Турцыі, Кітая, Карэі, Ірана, Польшчы, Таджыкістана… З Кітая прыехала агенцтва па аўтарскіх правах. Вялікім попытам карысталася прадстаўленая на іх стэндзе «Бібліятэка кітайскай літаратуры», якая выходзіць на рускай мове. Мяркуецца выдаць 50 тамоў твораў сучасных кітайскіх пісьменнікаў. Але ўсё ж варта вылучыць Расію, якая заўсёды актыўна прапагандуе ў Туркменістане свае кнігі. Дарэчы, расійская экспазіцыя, якая складалася паасобку са стэндаў розных выдавецкіх, навуковых структур, займала ў агульным вызначэнні прыкладна трэцюю частку выстаўкі. Асабліва заўважная была навуковая кніга: па медыцыне, археалогіі, усходазнаўстве, паліўна-энергетычным кірунку…

Гаспадары выстаўкі таксама стараліся паказаць усе свае здабыткі, падсумаваць зробленае за мінулы год. За восем месяцаў 2014 г. у Туркменістане дзяржаўнай выдавецкай службай выдадзена каля 110 назваў кніг агульным накладам больш як 4 мільёны экземпляраў. Выдаецца 49 часопісаў і газет. Тыражы многіх з іх дастаткова высокія.

### НОВАЕ Ў ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАЙ ПЕРЫЁДЫЦЫ

У Ашхабадзе давялося пазнаёміцца з работай новага літаратурна-мастацкага часопіса — «Сусветная літаратура». Пабачылі свет ужо 22 нумары. Перыядычнасць выдання — раз у два месяцы. Тыраж новага выдання склаў больш як 9000 экзэмпляраў.

Галоўная ідэя часопіса — адкрываць свету літаратуры іншых краін на туркменскай мове. У аднолькавай ступені выдаўцы часопіса ўважлівыя як да новых здабыткаў, так і да класікі. У новым (ліпеньска-жнівеньскім) нумары прадстаўлены раман Уільяма Голдзінга «Валадар мух». Нагадаем: англійскі пісьменнік — лаўрэат Нобелеўскай прэміі. Перакладчыца — Цімар Маметкурбанава. Курбангельды Маметжанедаў пераклаў для гэтага ж нумара навелу Шандара Пецёфі. У апошнім выпуску — творы С. Цвейга, П. Мерыме, М. Варгаса Льёса, В. Распуціна, А. Куприна.

— Асобна мы вылучылі ўзбекскую літаратуру, — распавёў галоўны рэдактар Мерэд Нанмамедаў. — Творы ўзбекскіх паэтаў, празаікаў пераклалі А. Атабаеў, Г. Гурбанаў, Л. Максімава. Мы лічым, што прыкметна вылучае наша выданне пастаяннае знаёмства з гісторыка-літаратурнымі, літаратуразнаўчымі артыкуламі. Гэтым разам прадстаўляем як крытыкаў і даследчыкаў мастацкага працэсу М. Бярдзяева, А. Маруа, І. Буніна, Р. Гамзатава, Ч. Гельдымурадава, М. Бяшымава, Б. Акатава. Пераканаы, што літаратуру нельга разглядаць у адрыве ад філасофскай думкі.

Шмат перакладае для часопіса вядомы туркменскі празаік Атаджан Таган. У Беларусі яго ведаюць па томіку прозы, выдадзеным на беларускай мове яшчэ ў савецкія часы. Калі сустракаю яго ў Ашхабадзе, Атаджан-ага заўсёды перадае прывітанне беларускім літаратарам. Найперш — Алесю Жуку і Генадзю Пацыенку. У свой час туркменскі празаік узначальваў савет па туркменскай літаратуры ў СП СССР.

— Мы сядзелі ў адным пакоі з Валянцінай Шчадрынай, якая апекавалася беларускімі літаратарамі, і я быў сведкам многіх сустрэч беларускіх сяброў, — расказаў А. Таган. — Спадзяюся, што і ў часопісе «Сусветная літаратура» знойдзецца месца беларускай паэзіі і прозе. Ведаю, што з беларусамі ў добрых стасунках Агагельды Аланазараў, Атамурад Атабаеў, Набаткулі Рэджэпаў… Мо яны і зробяць новыя пераклады. Хацелася б бачыць і прадставіць сучаснаму туркменскаму чытачу вашы новыя здабыткі.

### СВЯТЛО КЛАСІКІ

Арганізатары выстаўкі запрасілі прадстаўнікоў розных краін на прэзентацыю кніг Махтумкулі, выдадзеных апошнім часам. Вёў імпрэзу народны паэт Туркменістана Атамурад Атабаеў. Ён не прамінуў нагадаць: паводле рашэння Прэзідэнта Туркменістана Гурбангулы Бердымухамедава гэты год названы ў Туркменістане Годам Махтумкулі, і гэта невыпадкова. Сёлета — 290 гадоў з дня нараджэння класіка. Асноўныя ўрачыстасці прайшлі крыху раней. Між іншым, на іх былі запрошаны і беларускія літаратары — паэты Казімір Камейша і Ганад Чарказян, якія выступілі арганізатарамі выдання новых перакладаў Махтумкулі ў Беларусі. Нашы калегі былі адзначаны ордэнамі Махтумкулі, заснаванымі спецыяльна да вялікай даты ў культурным і асветніцкім жыцці Туркменістана.

На прэзентацыі новых выданняў туркменскага класіка давялося пазнаёміцца з велізарным фаліянтам, дзе творчасць Махтумкулі прадстаўлена ў перакладах на мовы народаў свету. Сярод іншых узораў прыгожага пісьменства — верш «Лёс туркмена» ў перакладзе Уладзіміра Караткевіча. У свой час гэты твор быў надрукаваны ў мініяцюрнай кнізе Махтумкулі, выдадзенай у Ашхабадзе. Пераклад вядомы, зразумела, і па мінскіх публікацыях.

Размаўляючы з Атамурадам Атабаевым, даведаўся, што Махтумкулі сёння надзвычай запатрабаваны аўтар у Туркменістане. На радзіму вялікага паэта ў Іране і цяпер пастаянна ездзяць жыхары Туркменістана. Цікавы і факт, пра які мне распавёў намеснік дырэктара будаўнічага тэхнікума Какаджан Тайлыевіч Бердыеў: «Махтумкулі ахвотна чытае моладзь. У нашай навучальнай установе нават створаны грамадскі музей класіка. Мы з задавальненнем расказваем студэнтам, што Махтумкулі ведаюць ва ўсім свеце. Мо якраз гэта і стала падставай таго, што ў нашым зусім не «профільным» для літаратуры тэхнікуме створана творчае аб'яднанне «Натхненне». Цяпер маладыя паэты нават сваю кнігу выдалі. Звязваю гэты факт з уплывам класікі, найперш — Махтумкулі».

### ПАЭЗІЯ — ГЭТА НАТХНЕННЕ!

Уражальнай падзеяй падчас працы выстаўкі стала правядзенне вечара паэзіі ў скверы «Натхненне» (па-туркменску — «Ільхам»). З чытаннем вершаў, прамовамі на вечары, які вёў паэт Аразгулы Анаеў і які поўнасцю запісваўся тэлебачаннем, выступілі народныя паэты Туркменістана Атамурад Атабаеў, Газель Шакуліева, пісьменнікі Камек Куліеў, Набаткулі Рэджэпаў, Атаджан Таган. Між іншым, у скверы роўным радком на высокіх калонах усталяваны бюсты туркменскіх паэтаў, якія пайшлі з жыцця. Моладзь ахвотна фатаграфавалася пры бронзавых Керыма Курбанняпесава, Курбаназара Эзізава. Паэтаў ужо даўно няма сярод жывых (Курбаназар загінуў у 1975 годзе, Керыма не стала ў 1988-м), а памяць пра іх жывая, творы і цяпер чытаюць новыя пакаленні чытачоў. Пра іх згадвалі і ўдзельнікі творчага вечара, нават тыя, хто прыехаў з іншых краін. Як, напрыклад, старшыня Саюза пісьменнікаў Якуцыі, паэт, дзіцячы пісьменнік Іван Мігалкін. Упершыню ён пабываў у Туркменістане яшчэ ў 1975 годзе. Менавіта тады па-якуцку былі надрукаваны яго пераклады вершаў Курбаназара Эзізава.

— Мяне і тады, а сёння яшчэ больш, уразіла Туркменія, — дзеліцца сваімі развагамі Іван Мігалкін. — Рады, што Туркменістан так імкліва, магутна развіваецца. Спадзяюся, што неадноўчы яшчэ ўдасца наведацца ў гэтую цёплую і прыгожую краіну. Цёплую не толькі сваім кліматам, але гасціннасцю, настроямі людзей, якія нас тут сустракаюць. Ужо назбіраў шмат тэкстаў — падрадкоўнікаў паэзіі і прозы, абавязкова выступлю перакладчыкам многіх твораў туркменскіх калег і сяброў. Хачу, каб са мною ў Якуцыю паляцела часцінка туркменскага цяпла.

Такія жаданні ды памкненні адносна развіцця стасункаў з Туркменістанам, відавочна, кіравалі ўсімі замежнымі гасцямі, што ўдзельнічалі ў ашхабадскай кніжнай выстаўцы-кірмашы.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# Летняе чытанне

**Вынікі рэспубліканскай акцыі «Лета з добрай кнігай» падведзены Міністэрствам інфармацыі Беларусі і Выдавецкім домам «Звязда» ў Доме прэсы. Самыя актыўныя ўдзельнікі праекта атрымалі дыпломы за прапаганду кнігі і чытання.**



Фота Наталлі Асмолы

*Удзельнікі мерапрыемства ў Доме прэсы — вучні гімназіі г. Дзяржынска.*

Акцыя, якая стартавала 1 чэрвеня ў дзіцячым парку імя Максіма Горкага, мела шырокі грамадскі рэзананс і з поспехам прайшла амаль ва ўсіх рэгіёнах рэспублікі. Яе арганізатары, у першую чаргу — Міністэрства інфармацыі, Выдавецкі дом «Звязда», Мінгарвыканкам, Саюз пісьменнікаў Беларусі, БРСМ, аб'ядналіся з вялікай мэтай — выхаваць у дзяцей і падлеткаў любоў да чытання.

Дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч пацвердзіў, што людзей, якія падтрымалі акцыю, было вельмі шмат: «Дарослыя выказалі вялікае жаданне дапамагчы ў справе прыцягнення юных беларусаў да чытання, адваяваць іх увагу ў камп'ютараў. Пісьменнікі, аўтары кніг, сустракаліся з дзецьмі ў аздараўленчых лагерах, школах, бібліятэках. Спадзяюся, што гэтая традыцыя будзе развівацца».

На працягу трох летніх месяцаў маленькія і дарослыя жыхары краіны змаглі паўдзельнічаць у шэрагу цікавых мерапрыемстваў. Сярод іх — прэзентацыі кніг, сустрэчы з пісьменнікамі, казачныя прадстаўленні, віктарыны, гульнявыя праграмы, экскурсіі, выстаўкі. Цяжка было знайсці раўнадушных. Моладзь з вялікім задавальненнем знаёмілася з творчасцю айчынных аўтараў, асабліва тых, хто падчас сустрэч шчыра размаўляў з чытачамі. Удзельнічалі ў акцыі і спецыялісты па кнігавыданні, якія раскрылі ўдзячным слухачам таямніцы «нараджэння» кніг — ад вокладкі да апошняй старонкі.

Папулярнасць акцыі і вялікая зацікаўленасць да яе з боку грамадства і ўлады сведчыць пра тое, што беларуская дзіцячая кніга запатрабаваная, нават нягледзячы на засілле электронных носьбітаў інфармацыі. Статыстыка гэта пацвярджае: штогод у Беларусі выходзіць не менш як 200 новых выданняў для дзяўчынак і хлопчыкаў.

З ахвотай падтрымалі ініцыятыву правядзення акцыі і ў Рэспубліканскім грамадскім аб'яднанні «Белая Русь», дзе з асаблівай павагай ставяцца да нацыянальнай культурнай спадчыны.

«Прыемна бачыць менавіта «жывую», то бок друкаваную кнігу, з яркімі ілюстрацыямі і прыемным водарам паперы. Кнігадрукаванне ў Беларусі знаходзіцца на даволі высокім узроўні, што пацвердзілі самі маленькія чытачы», — адзначыла старшыня Дзяржынскай раённай арганізацыі грамадскага аб'яднання «Белая Русь» Раіса Смяян.

Пісьменнік Анатоль Зэкаў дадаў, што гэтае лета не было для пісьменнікаў проста адпачынкам. Кожны з творцаў змог бліжэй пазнаёміцца са сваёй аўдыторыяй, спазнаць псіхалогію і патрабаванні дзяцей.

Паводле намесніка старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Уладзіслава Цыдзіка, у нашай краіне эфектыўна вырашаюцца пытанні сацыяльнага напрамку. «Што да актыўнага распаўсюджвання кніг, то мы на правільным шляху. Маладыя хочуць ведаць усё больш. Ініцыятыва арганізатараў акцыі «Лета з добрай кнігай» павінна падтрымлівацца. Наша грамадства мае шанц лічыцца адным з самых чытаючых і адукаваных у свеце», — зазначыў Уладзіслаў Цыдзік.

Працяг будзе! Ім стане новая акцыя «Восеньскі марафон з добрай кнігай», якая зноў аб'ядная ўсіх, хто любіць кнігі і шануе роднае слова.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Пад крылом рамантыкі

Вечар памяці беларускага пісьменніка Артура Вольскага, прымеркаваны да 90-годдзя з дня яго нараджэння, адбыўся ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча.

Імпрэза атрымала ўзнёслую назву «Дабяруся да нябёс», звязаную са зборнікам паэзіі творцы, які выйшаў у 1984 годзе, і ўсёй яго спадчыны, агорнутай светлымі і добрымі пачуццямі.

Шматгранная асоба Артура Вольскага раскрылася ў майстэрстве стварэння не толькі вершаў і празаічных твораў, але і карцін, п'ес, перакладаў, літаратурных і публіцыстычных артыкулаў. З-пад яго таленавітага пяра выйшла лібрэта першай беларускай аперэты для дзяцей «Сцяпан — вялікі пан», а таксама падручнік для вывучэння роднай мовы «Беларусачка». Увогуле, з малымі ў яго былі асаблівыя стасункі. Пісьменнік умеў размаўляць з дзецьмі на іх мове, даходліва і займальна, дзяліўся сваёй мудрасцю і досведам. Артур Вольскі быў адным з заснавальнікаў часопіса «Вясёлка», а потым на працягу амаль 15 гадоў узначальваў Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача.

Гасцямі вечарыны сталі родныя і сябры творцы. Спадарожніца яго жыцця, артыстка Беларускага тэатра юнага гледача Ларыса Горцава расказала пра іх знаёмства, якое, дарэчы, нагадвала першую сустрэчу Майстра і Маргарыты Міхаіла Булгакава. На шчасце, лёс распарадзіўся не так трагічна, як у класіка, і звязаў іх сэрцы на доўгія трыццаць гадоў.

Пісьменніца Раіса Баравікова ўзгадала эпоху, у якую тварыў малады на той час майстар слова. «Дзіўныя гады, калі Беларусь была часткай СССР, зрабілі нас, пісьменнікаў, наіўнымі рамантыкамі і мудрымі філосафамі адначасова. Мы заўсёды некуды спяшаліся, верылі ў светлыя ідэалы, пры гэтым усведамлялі, што рэальнасць патрабуе шмат адвагі і працавітасці», — паведаміла Раіса Баравікова.

Паэт Мікола Чарняўскі, артыст ТЮГа Мікола Лявончык, сын пісьменніка Лявон Вольскі, на некалькі хвілін зазірнуўшы ў мінулае, таксама ўспомнілі пра чалавека, творчасць якога не падуладная часу.

**Марыя ВАЛКОВІЧ**

# Тры «Л» і мелодыя мора

Сяброўская атмасфера панавала на творчай вечарыне «Л» маладой паэтэсы і барда, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Ганны Чумаковай, што адбылася на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта. «Лёс, людзі, любоў» — такую расшыфроўку мае назва. Тут — філасофія жыцця і чалавечых стасункаў, а яшчэ — прыступкі творчага сталення аўтаркі, увасобленыя ў чарадзейным сінтэзе вершаў і музыкі.

Думкі, вобразы, успаміны спалучаюцца ў творчасці Ганны, нібыта рознакаляровыя шкельцы ў калейдаскопе. Паэт успрымаецца ёю як «адрасат» інфармацыі, што ідзе звонку і паступова «выкрышталізоўваецца» ў верш.

Павіншаваць Ганну прыйшлі яе сябры і калегі па пяры. Цёплыя словы ў адрас юбіляркі гучалі з вуснаў старшыні Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхася Пазнякова (дарэчы, выпускніка філфака БДУ), галоўнага спецыяліста МГА СПБ, паэтэсы Іны Фраловай, маладых паэтэс Маргарыты Латышкевіч і Людмілы Клачко, барда Сяргея Башлыкевіча, дацэнта кафедры тэорыі літаратуры БДУ Рымы Кавалёвай. Ганне прысвяцілі вершы Анатоль Зэкаў і Навум Гальпяровіч. Творы паэтэсы гучалі і ў выкананні студэнтаў філфака БДУ.

Сваімі літаратурнымі настаўнікамі Ганна лічыць Марыну Цвятаеву, Мацуо Басё, Анатоля Сыса — прадстаўнікоў зусім розных культур. Паэтэса не абмяжоўваецца адным тэматычным кірункам. Дыяпазон яе творчасці даволі шырокі: ад аўтабіяграфічных вершаў да філасофіі прыроды і кахання. Цыкл твораў Ганна прысвяціла мору. Шчырыя радкі знайшлі — і знаходзяць! — жывы водгук у сэрцы ўдзячнай публікі.

**Яна ЯВІЧ**

# «Таркі-Тау-2014» сустракае Беларусь

**У традыцыйнай для Дагестана і ўвогуле Паўночнага Каўказа Расіі кніжнай выстаўцы «Таркі-Тау-2014» упершыню возьмуць удзел беларускія выдаўцы.**

На адным са стэндаў будзе разгорнута экспазіцыя Выдавецкага дома «Звязда». Наведвальнікі пазнаёмяцца з беларускай літаратурна-мастацкай перыёдыкай, кніжнымі навінкамі. Выстаўка праходзіць з 9 па 12 кастрычніка ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Дагестан імя Расула Гамзатава. "Звяздоўская" экспазіцыя раскажа пра часопісы «Полымя», «Нёман», «Маладосць», газету «Літаратура і мастацтва», дзе апошнім часам са сваімі творамі ў перакладзе на беларускую і рускую мовы выступілі паэты і празаікі Дагестана, Чачні, Кабардзіна-Балкарыі, іншых блізкіх да Махачкалы творчых асяродкаў. Адзін з пунктаў праграмы — прэзентацыя альманаха «Сугучча», а таксама кнігі «Сугучча сэрцаў: Беларусь — Расія», дзе змешчаны пераклады твораў пісьменнікаў народаў Расіі.

Кнігі і часопісы Выдавецкага дома «Звязда» прадставіць на выстаўцы супрацоўнік часопіса «Полымя», паэт і перакладчык Рагнед Малахоўскі.

**Сяргей ШЫЧКО**

# Сезон адкрыты!

**Новы літаратурны праект «Паэтычныя сезоны» распачаты ў сталічнай бібліятэцы № 7 імя Якуба Коласа. Ініцыятарамі выступілі Мінскае гарадское аддзяленне СПБ і калектыў бібліятэкі на чале з загадчыкам Людмілай Калядой.**

Першым крокам стала прэзентацыя паэтычнага зборніка Валерыя Максімовіча «Сярод блукаючых планет». Аўтар кнігі не толькі паэт, але і літаратуразнавец, крытык, доктар філалагічных навук. На яго рахунку — некалькі навуковых манаграфій, вучэбных і вучэбна-метадычных дапаможнікаў для студэнтаў і настаўнікаў.

Падтрымаць аўтара прыйшлі калегі. Інэса Марозава, кандыдат філалагічных навук, дацэнт, якая напісала рэцэнзію на ўзгаданую кнігу, выказала свае думкі пра месца паэта і паэзіі ў сучасным свеце. Паэт і перакладчык Андрэй Цяўлоўскі падкрэсліў выключную меладычнасць вершаў Валерыя Максімовіча.

**Ганна СТАРАДУБ**

# Тыдзень асветы

**У сталічнай дзіцячай бібліятэцы № 6 імя Васіля Віткі прайшоў Тыдзень беларускага пісьменства пад агульным дэвізам «Праз кнігу — да дабра і свету», кожны дзень якога быў насычаны цікавымі і разнастайнымі мерапрыемствамі.**

Многія чытачы ўпершыню адкрылі для сябе гісторыю нацыянальнага кнігадрукавання, больш падрабязна пазнаёміліся з жыццём і дзейнасцю слынных беларускіх асветнікаў Еўфрасінні Полацкай і Францыска Скарыны, здзейснілі віртуальнае падарожжа па найбольш вядомых замках Беларусі.

Своеасаблівым мастком ад старажытнасці ў сённяшні дзень сталі сустрэчы з пісьменнікамі. Анатоль Бутэвіч прэзентаваў юным чытачам кнігу «Паміж Княствам і Каронай», Анатоль Зэкаў — зборнік казак, апавяданняў і вершаў "Як Гаўка ў космас збіраўся". Адбыліся прэзентацыі новага часопіса для дашкольнікаў «Буся» з удзелам яго галоўнага рэдактара Уладзіміра Ліпскага і пілотнага нумара аднойленага часопіса для падлеткаў «Бярозка».

**Марыя БЯРНАЦКАЯ**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з прычыны смерці паэта, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Сяргея Андрэевіча КІСЯЛЁВА і выказваюць шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

## Надзея САЛОДКАЯ



### Рабінавы ўспамін

*Хто я такая?... Дзіця Беларусі:
Жылка, крывінка, надзея, сляза...
Сэрцам трывожным
да слова гарнуся —
З ім мяне лёс неспадзеўкі звязаў.*

*Песня ўзлятае высока і вольна —
Гэтак люблю свой рабінавы край,
Той, што пяе ручаінкай і гоман,
Той, дзе птушыны
залівісты грай!*

*Толькі ў чатыры дарослыя крокі —
Мой ручаёк агарод абвіваў,
Ён у маленстве здаваўся шырокім,
А надвячоркамі стому змываў.*

*Тут мы, малеча, збіраліся ўлетку
Ды праз аер пераходзілі ўброд
На лугавінку духмяную ў кветках,
Што ўсё квітнее
за шэрагам год.*

*Мама шчыруе ўвесь дзень да знямогі...
Статак вясковы дадому ідзе...
Звон камарыны... Цыпкатыя ногі...
Месячык хмарку люляе ў вадзе...*

*Хто я такая?.. Уся — з успамінаў
Ды знітаваная з Белай зямлёй,
З гарычу нашых чырвоных рабінаў,
Слодычу хаткі старэнькай маёй.*

***

*Калі сонца хаваецца ў хмары,
Пачакай, яно шчодра праб'ецца —
І засвеціцца сумныя твары,
І салоўка пяшчотай зальецца.*

*Калі нехта сыходзіць дачасна —
Таго часу не нам перамерыць,
А каб памяць аб ім не пагасла —
Варта ў вечнае-добрае верыць.*

*Лёс капрызіць, бо любіць пакору,
Патрабуе ад нас шанавання...
Я не ведаю большага гора,
Чым калі пакідае каханне.*

### Была вайна...

*Хата дзяцінства...
З прабітай сцяною —
Знак-успамін аб снарадзе ліхім.
Мама забельвала кожнай вясною
Лапік гліняны над ложкам маім...*

*Бацькаў медаль, незагоены раны,
Праўдай ваеннай параненым мозг...
Радасць і жах, ад дзяцей прыхаваны,
Бацька з акопаў дахаты прывёз.*

*Босыя, ў холад — анучы-аборкі,
Мой паліто нчык з яго шыняля...
Морква і боб, буракі і «шаморкі»,*
Бо сумавала няўвагай зямля.*

*З гільзы капцілка,
з большай — вядзерца,
Рэшткі бяды па вялікай вайне...
Тых успамінаў ніяк не аддзерці,
Маміна сэрца баліць ува мне.*

* Шаморкі, шаморыкі (мясц.) — аладкі з мёрзлай вясенняй бульбы.

### І зноўку дождж...

*Як жа мне добра на гэтай зямлі
Дыхаць, глядзець,
сумаваць пад дажджамі,
Зімы чакаць і вясенні разліў,
Восенню шчодрай збіраць ураджаі!*

*Што ж гэтак хутка нясуцца гады?!
Толькі паспеў
нешта вызнаць і ўцяміць —
Глядзь, атрасаюць лістоту сады,
Той лістапад закалыхвае памяць...*

*Менее побач надзейных сяброў —
У іншасвеце збіраюцца недзе...
Хоць улівай тую памяць у кроў,
Ды не сустрэцца
ў вясёлай бяседзе...*

*Скрушна,
і страшна,
і хораша жыць,
І спазнаваць, аддаваць, і запомніць...
А ручаінка свавольна бяжыць —
Рэчку, азёрка
ці мора запоўніць...*

## Аксана ЯРАШОНАК



### На плошчы Якуба Коласа

*Нібыта ў студэнцтве, да болю далёкім,
На плошчы ізноў акрыяе душа.
Лістота Сымона засыпала злёгку,
Даждэжынка паўзе з барады Талаша.*

*Задумлівы класік глядзіць на сталіцу
З такой недасяжнай сваёй вышыні.
І бачыць: унізе народ мітусіцца
Ды ўвечары зззяюць неонаў агні.*

*Ці пішуцца вершы
пад грукат трамваяў?
Ці сумна на плошчы у прыцемкаў час?
Я Коласа ў думках, канечне, спытаю
І ў голасе ветру пачую адказ.*

*Любімая плошча пад сонцам іскрыцца,
І раптам нахабная думка міргне:
Задумлівы класік глядзіць на сталіцу
І, можа так стаіцца, заўважыць... мяне.*

### Мой філфак

*Міколу Шабовічу*

*Тут сам сабой рыфмуецца радок
І піша час знаёмыя канспекты.
А можа, нават у начны паўзмрок
Сыходзяць ціха класікі з партрэтаў.*

*За вокнамі хвалюецца праспект
І плынь машын насустрач дню нясецца.
Аўтамабільны акампанемент
Ізноў стварае фон для Вашых лекцый...*

*Няхай жыццё свой не спыняе крок,
Праз люстра год усё змагу я ўбачыць:
Шуміць праспект.
Рыфмуецца радок.
І ў вусы усміхаецца Выкладчык.*

### Не з Вамі

*Падплывае смутак чорнай хмарай,
Ад яго я не магу схавацца.
У чарговы раз мая гітара
Адчувае дотык цёплых пальцаў.*

*Сёння, як і ўчора, я не з Вамі.
Толькі у сустрэчу нашу веру.
А пакуль нябачнымі штрыхамі
Вобраз Ваш малюецца ў паветры.*

***

*Жоўта-чырвонае мроіва
Шэптам душу супакойвае.
Ранак букетам вяргіневым
Ціха пастукае ў шыбу мне.
Раніцы цёплыя, росныя,
Не адчуваецца восені.
Ды весялосць дзесь падзелася....
Верасень...
Верасень...
Верасень...*

## Віктар ШНІП



***

*Дробны дождж не затопіць дарогі.
Ён прынёс мне самотны настрой.
Хаты шэрыя, быццам астрогі,
Бачу ўдалечы
перад сабой.*

*Там даўно я не быў і не буду,
Бо ніхто там цяпер не жыве.
Паўцякалі вяскоўцы.
Без люду
Хаты топяцца ў злоснай траве.*

*Я ж іду ў Пугачы, дзе ёсць людзі,
Для якіх наша вёска — наш рай.
І яна апусцелай не будзе,
І не знікне ў траве
родны край.*

*Нам дажджы не затопяць сцяжыны.
Пройдзе дождж,
і зноў будзе святло.
Будзем мы і ў нас
будзе Айчына,
А інакш ці трэба было,*

*Каб для нас будавалі тут хаты
Нашы продкі і нас бераглі.
Той на свеце заўсёды багаты,
Хто не ўцёк
ад бацькоўскай зямлі.*

***

*заснеш і не прачнешся
разам з сонцам
якое чырвонае як кроў
з адсечанай галавы пеўня
што разбудзіў новы дзень
у якім яго ўжо не будзе
як і цябе
бо ты заснеш і не прачнешся
каб ісці на працу
ты прачнешся заўтра
якое ўжо не будзе заўтрам
як не будзе дажджу
бо не будзе аблокаў
на якіх ты заснеш
каб прачнуцца сярод лета
дзе ў кожнай кветкі
ёсць свая пчала
што не дасць табе заснуць
стукаючыся аб шыбу вакна
за якім зоркі як кроплі мёду
з якіх анёлы зляпяць сонца
залатое сонца а не чырвонае
і ты прачнешся каб сказаць
усё будзе добра*

### Рэха

*паміж альфай і амегай рэха
як паміж зямлёй і небам павуцінка
якая плыве па хвалях ветру
з вясны праз лета ў восень
і становіцца першым снегам
не кожны бачыць яе
як не кожны чуе рэха
жывучы ў рэху як у граху
і не з кожнага нараджаецца рэха
як з каменя вада дзе жыве рэха
якое камянее і рассыпаецца ў пыл
у плач у смех у свет у святло
і далятае да нас
бо мы — рэха ад Адама і Евы
і мы блукаем па свеце
як у лабірынтах Мінатаўра
дзе нітка Арыядны як рэха
і ў нашых вачах нараджаюцца не слёзы
а птушкі празрыстыя
якія выносяць з глыбіняў душы рэха
таго што было што ёсць што будзе
як сонца як поўня як зямля
якія існуць толькі таму
што ўсё гэта — рэха народжанае Богам
дзе няма ні альфы ні амегі
а ёсць толькі РЭХА*

***

*Мы прывыклі спрачацца
на месцы пустым
І за месца пустое,
якое,
як дым,
Перад намі было
і прапала праз міг.*

*Мы разумныя ўсе,
ну а нехта дурны,
І заўсёды дурныя ў нас —
«ён» і «яны»,
І сярод іх хапае
заўсёды сваіх.*

*Мы з табою сядзім
перад пляшкай віна,
Як прад вечным агнём,
і агонь
як сцяна,
За якой мы не бачым
дарогі дамоў,*

*Дзе няма з кім спрачацца
на месцы пустым
І за месца пустое,
якое
як дым,
У якім заблудзілася
наша любоў...*

### Нутро

*напачатку было Нутро
і гэта было Божае Нутро
і цяпер нутро — гэта тое што ёсць
вакол нас і ў нас
нутро можна дастаць
як з ракавінкі перліну
як з патрона порах
нутро можна напоўніць
як велізарную бочку
маладым вінам
і мы самі жывём у нутры
гэтага белага свету які не белы
які напоўнены вадой і агнём
цемрай і святлом жыццём і смерцю
і там дзе ёсць нутро там ёсць сэнс
і там ёсць дзея якую не ўсе бачаць
бо яна ў нутры сэнсу
як у нутры арэха
і нутро бывае светлым
як папера на якой ты малюеш
і нутро бывае чорным
як агонь у печы дзе ты паліш чарнавікі
дзе кіпіць чырвоны агонь
які выйшаў з нутра дрэва
якое магло быць труной
якое магло быць вуллем
дзе жылі б пчолы і трутні
і мы хочам трапіць у нутро
бо яно як прорва
якая кліча і палохае*

***

*Ізноў прыйшла
чаканая субота.
У келіхах чырвоная самота.
І ты сядзіш прыгожы,
нібы Бог.*

*Ты задаволены жыццём,
кватэрай
Хоць неаднойчы
пралятаў фанерай
Над еўрапейскай
вабнасцю дарог.*

*Табе не трэба музыка Шапэна.
Ты проста можаш
брацца за калена
Жанчыны той,
якую ты чакаеш,*

*Каб разам з ёю з келіхаў самоту
Піць за вясну і гэтую суботу,
І жыць табе інакш
не загадаеш.*

*І што табе, што некаму
трывожна
За родны край.
Ты накупляў пірожных,
І гэта твой цяпер
маленькі рай.*

*І я жыву ў адным
з табою доме,
Дзе ўсе —
нібыта пацукі
ў саломе...
Але наш край —
не саламяны край!*

Міхась ПАЗНЯКОЎ

# Таямнічая жанчына

## Апавяданне



Дадому вяртаўся пасля васьмі гадзін вечара. Выйшаў з аўтобуса і паволі пакрочыў да свайго дома, накіданы ў думках план занятку на заўтра. Як і звычайна, не ўсё, намечанае на гэты дзень, удалося выканаць, бо жыццё заўсёды дыктуе нешта непрадугледжанае, новае, нечаканае.

А вось наперадзе, з-за суседняга дома, паказаўся і мой кааператыўны шаснаццціпавярховік, у якім зусім нядаўна я займеў двухпакаёвую, на дваіх з жонкай, кватэру. Дыхтоўную, з адметнай сучаснай планіроўкай, даволі прасторную, па нашых сціплых запатрабаваннях…

Будынак прыязна пазіраў на мяне шматлікімі жывымі вокнамі. Адшукаў позіркам свае — на сёмым паверсе, — і яны падаліся мне больш роднымі. А як жа: амаль паўгода напаўняюць маю кватэру бадзёрым сонечным святлом і адкрываюць цікавую, змястоўную панараму новага мікраёна «Дружба».

Неяк міжволі позірк мой праз некалькі хвілін сягнуўся вышэй, я пачаў лічыць паверхі: восьмы, дзявяты, дзясяты, адзінаццаты, дванаццаты… І горкі ўспамін пра нядаўнюю трагедыю працяў наскрозь. З гэтага дванаццатага паверха тыдзень таму зрабіла незразумелы крок у небыццё маладая замужняя жанчына. Я не распытваў у людзей, кім яна была, што прымусіла яе, маці пяцігадовага сына, пайсці на самагубства? Што падштурхнула да жудаснага рашэння?.. Горкі ўспамін развярэдзіў, расхваляваў. Дзесьці тут супыніла палёт самагубцы каляная зямля… Божа, пра што яна паспела падумаць за апошнія імгненні ракавога палёту? Ці была смерць імгненнай?.. І чаго ў гэтым яе жахлівым учынку больш? Адчаю? Невымоўнай пакуты? Выратавання? Мужнасці? Гарачлівасці? Пратэсту? Слабасці? Непапраўнай памылкі? Пэўнага выйсця з пакутлівых жыццёвых абставін?.. Хутчэй — усяго патроху… І каго яна пакарала ў рэшце рэшт? Сябе? Маленькага сына? Мужа? Бацькоў? Жыццё? Бадай, таксама — усіх і ўсё… Я стаяў на месцы гібелі чалавека, адчуваючы сябе пад шатром хуткаплыннай таямнічай існасці гэтак жа, напэўна, як пачувае сябе маленькі мураш пад шпаламі чыгункі, па якой рухаецца магутны і бясконцы цягнік…

З такімі няпростымі думкамі я і падышоў да свайго пад'езда. Мне не пашанцавала. Як гэта часта бывае ў новых дамах, з-за адключэння электрычнасці ліфт не працаваў. Патрэбна было выходзіць з пад'езда і праз іншыя дзверы ісці на лесвіцу ды падымацца наверх пешшу. Спахмурнеў, прыгадаўшы, што не захапіў з дому ключ ад дзвярэй у тамбур сёмага паверха. Але іншага выйсця з пікантнай сітуацыі не было: не маючы ключоў ад дзвярэй з ліфтавай пляцоўкі або з лесвіцы ў тамбур, дамоў можаш і не патрапіць.

Жонка была на дачы, таму заставалася спадзявацца на тое, што дзверы ў тамбур паверха не будуць замкнёнымі. Я выйшаў з цёмнага пад'езда і ўбачыў, што дзверы на лесвіцу сапраўды прачынены. За імі стаяла маладжавая і даволі мілавідная жанчына. Падалося нават, што яна знарок трымала дзверы, чакаючы мяне. У паўзмроку, пры вячэрнім святле, якое крыху асвятляла лесвічную пляцоўку першага паверха, я заўважыў, што жанчына была апранута ў лёгкую сінюю куртку, хатні байкавы халат. На нагах, здаецца, былі пашытыя з матэрыі шэрыя тапачкі. Вельмі ўразілі яе блакітныя, цёплыя і добрыя, быццам анёльскія, вочы. Нешта ў іх было незвычайнае, незямное. У яе мяккім, лагодным голасе ўлаўлівалася столькі пачцівасці і нібыта ўдзячнасці, што я ліхаманкава пачаў прыгадваць, дзе і пры якіх абставінах мы бачыліся раней. Не ўспомніў нічога падобнага, памкнуўся быў запытацца, ці не з нашага яна сёмага паверха. Аднак нейкая невядомая сіла скавала мае вусны. Я адчуў, што мяне ахоплівае, запаўняе нейкае дзіўнае, невядомае да гэтага часу энергетычнае поле. Супакойлівае, гаючае, якое здымае ўсялякую стому, робіць мяне зусім іншым. Мажліва, вольным-вольным, лёгкім-лёгкім, пакорным-пакорным, калі паспрабаваць перадаць той стан звычайнымі нашымі словамі. Але я разумею, што маё параўнанне, вызначанае тут, вельмі прыблізнае і недакладнае. Яно проста не можа быць перададзена звычайнай мовай. Маёй стомы сапраўды як і не было. На душы зрабілася лёгка, светла, вольна. Паверце, зноў жа, як я ні падбіраю словы, але яны далёкія ад таго, каб дакладна перадаць тую атмасферу. Нават скажу больш: хтосьці спецыяльна не хоча, каб я даў эквівалентныя апісанні тых хвілін. Словам, нічога падобнага я не толькі не перажываў у сваім, ужо й не маладым, жыцці, але і ўявіць ці прыфантазіраваць не мог. Але ў той момант я яшчэ не ўсведамляў гэтага. І доўгі час нада мной пастаянна вісела нейкае табу, што не дазваляла ні расказваць, ні, тым больш, апісваць адчутае. А тады, нібы чароўна спалонены чымсьці неверагодным ці патрапіўшы праз тыя лесвічныя дзверы ў нейкі іншы свет, з якім не сутыкаўся і не мог сутыкнуцца ў нашай будзённасці, я з невытлумачальнай палёгкай нават не пакрочыў, а, здаецца, паплыў да прачыненых дзвярэй на лесвіцу.

— Ідзіце, я чакаю вас, — прагучала (якое недакладнае слова) з вуснаў той незвычайнай жанчыны. Толькі цяпер я магу сказаць, што яна словы не вымавіла, а яны як быццам былі перададзены праз яе вусны з іншага, незямнога быцця.

— Дзякуй вам, — адказаў я, яшчэ больш заінтрыгаваны тонам і цеплынёю яе голасу. У той жа час імкнуўся як мага лепш разгледзець маю добрую спадарожніцу. Не, я, здаецца, не бачыў яе раней. І гэта нядзіўна, бо ў доме больш як сто кватэр. А далікатную пачцівасць, жаданне яе дапамагчы прыняў як рысы шчырага, выхаванага чалавека, які, да таго ж, жыве з табой у адным пад'ездзе. Такое бывае асабліва ў навасёлаў, калі, шчаслівыя, яны пэўны час вельмі прыязныя, сяброўскія, чулыя, пакуль будзённы час не накладзе на іх адносіны пячатку звыкласці ці нават абыякавасці, як часцей за ўсё і бывае ў вялікім горадзе…

— Трымайцеся. Я пасвячу вам, рухайцеся за мною, — прыемна працягвала загадкавая незнаёмка…

Яна сапраўды штосьці ўключыла не надта яркае, але перамяшчацца па вузкаватай лесвіцы стала зручней. Чым яна асвятляла дарогу перад сабой, я так і не здагадаўся. Толькі я не распазнаў у яе асвятляльніку ні ліхтарыка, ні мабільнага тэлефона, якім мы таксама ўмудраемся часам падсвечваць сабе дарогу.

Крок за крокам мы рухаліся наверх па асветленых ёю прыступках. Яна — крокі на два паперадзе, я — за ёю следам. Тое, невымоўнай душэўнасці ці прастаты адносін, энергетычнае поле, якое апанавала мяне яшчэ перад уваходам на лесвіцу, нікуды не знікла. Наадварот, яно ўзмацнялася з кожным паверхам, рабілася больш выразным, моцным і дзівосным. Мяне здзівіла, калі жанчына сваім анёльскім голасам зазначыла:

— Першы раз вам, безумоўна, нязручна і няпроста падымацца па гэтай цёмнай лесвіцы… А мне вельмі хораша… Ліфт зусім не для мяне, тым больш цяпер…

У той міг яе словы мяне не надта здзівілі. Я пераехаў са старой кватэры ў новы дом не адразу, а пасля таго, як падключылі ліфт: не хацелася насіць рэчы ды і хадзіць пехам ажно на сёмы паверх. І толькі пазней я пачаў задумвацца над сказаным ёю, асабліва ў канцы фразы: «тым больш цяпер». Калі цяпер? У гэты дзень, калі спыніўся ліфт, ці таксама ў тыя дні, калі ён і працуе?..

Мы вельмі мала гаварылі. Дакладней, яна рэдка звярталася да мяне да самага майго паверха. А я маўчаў, нібы нехта забараняў і падказваў, што ўсе словы лішнія, непатрэбныя — настолькі зразумелай, яснай, натуральнай была атмасфера вакол нас ці той энергетычны кантакт, усталяваны між намі. Не існавала ніякіх псіхалагічных або камунікатыўных перашкод. Мы рухаліся ў нейкай адзінай звязцы, з'яднаныя паразуменнем, якое перадавалася моўчкі. Здавалася, што мы можам гэтак перамяшчацца бясконца, нястомна і з асаблівай духоўнай асалодай. Магічныя крокі, рухі і голас дзіўнай жанчыны выдавалі ў ёй ці то вельмі шчырага і мудрага, ці то выключнай святасці чалавека.

Ці не было ў яе пытаннях чагосьці, што патрабуе пэўнай расшыфроўкі? Ведаеце, я не магу адказаць станоўча, але і не буду праўдзівым, калі пачну адмаўляць. Хтосьці нешта хуценька сцёр з маёй памяці як недазволенае. Не, яна не імкнулася штосьці даводзіць мне на словах, пра штосьці запытацца ці нагадаць. Але яе прысутнасць была вельмі адчувальнай і шматзначнай. Усё вакол: прыступкі лесвіцы, сцены, парэнчы — здаваліся мне своеасаблівай флэшкай, на якую запісвалася значна больш, чым я мог разумець, чуць, успрымаць. Гэта было, упэўнены, вышэй, шырэй, глыбей за ўсе чалавечыя магчымасці распазнаваць яго.

Калі мы падняліся на мой сёмы паверх (пра што я ў тую хвіліну дакладна не ведаў), мая незвычайная спадарожніца ласкава заўважыла:

— Вось вы і прыйшлі на свой паверх… Не хвалюйцеся, дзверы ў тамбур не замкнёныя… А мне патрэбна на дванаццаты…

Я падзякаваў за дапамогу, заінтрыгаваны тым, што яна ведае пра незамкнёныя дзверы. Адкуль? Але глыбей я задумаўся аб гэтым значна пазней. Менш уразіла, што яна ведала, на якім паверсе жыву. Магла запомніць зрокава, калі падымаліся на ліфце раней… Не здзівіла тады мяне і тое, што жанчына ішла менавіта на дванаццаты паверх. Хутчэй за ўсё, тое энергетычнае поле, у якім я знаходзіўся, не дазволіла мне падумаць пра такія дэталі.

Зверху яна яшчэ пасвяціла мне на дзверы, якія сапраўды адчыніліся, калі я тузануў за ручку. З палёгкай уздыхнуў. Зрабіў некалькі крокаў па калідоры і спыніўся. Не, дакладней, штосьці запаволіла мае крокі.

«Можа, варта было правесці жанчыну па цёмнай лесвіцы?.. Ці мала што?..»

Я вярнуўся на лесвіцу, прыслухаўся.

«У вас усё добра? Магчыма, патрэбна мая ахова ці дапамога», — памкнуўся я падаць свой голас, аднак зноў жа нейкая незразумелая сіла перашкодзіла мне, і мае словы захраслі ў горле. Тым не менш я паволі пасунуўся наверх, каб пераканацца, што з маёй спадарожніцай усё ў парадку. Паступова я адолеў два паверхі і застыў на месцы. Над маёй галавой пачуліся яе крокі. Што гэта менавіта яна, не было ніякага сумнення, я не выйшаў яшчэ з дзіўнага энергетычнага поля. У вячэрняй цішыні чутны былі ўсе яе рухі. Я вырашыў пастаяць некалькі хвілін, дачакацца, пакуль рыпнуць тугія дзверы ў тамбур яе дванаццатага паверха. Праз некалькі хвілін крокі змоўклі, а рыпу дзвярэй так і не было. Рушыў вышэй, лічыў паверхі. Вось і дванаццаты. Намацаў ручку, дзверы не паддаліся. Яны былі замкнёныя…

Не ў той час, а пазней я зразумеў, што паступіў няправільна. Энергетычнае поле вакол мяне, калі я падняўся на дванаццаты паверх, змянілася. Пэўна, я парушыў дазволенае, апынуўся блізу мяжы, за якую нельга і небяспечна пераступаць…

Калі спускаўся ў змроку назад, выразна адчуваў чыйсьці пападжвальны позірк, нечую затоеную прысутнасць, якісьці ахоўны і адначасова забаронны знак… Калі ж з лесвіцы выйшаў на лоджыю, каб патрапіць у тамбур, на хвіліну супыніўся. Зірнуў у неба, а затым уніз… Лепей бы я не рабіў гэтага. Нейкая незразумелая сіла цягнула мяне ў змрочную бездань, з якой, падалося, замілавана, прыцягальна пазіралі знаёмыя блакітныя вочы…

— О, Божа, — выдыхнуў я, успомніўшы даўнюю татаву падказку звяртацца да Усявышняга ў цяжкія моманты, і хуценька пакіраваў да дзвярэй сваёй кватэры…

Ішоў час. Як я ні стараўся, але загадкавай жанчыны так ніколі больш і не сустрэў. Ні каля дома, ні ў пад'ездзе, ні ў ліфце, ні на дванаццатым паверсе. А па лесвіцы больш не хаджу. Не даводзілася…

Праз тры гады я ўспомніў гэты выпадак, і ён пачаў акрэслівацца выразней і выразней. Аднаго разу вечарам я сеў за рабочы стол і распачаў гэта апавяданне. Недзе а палове другой ночы, калі мне заставалася хвілін трыццаць, каб завяршыць яго, я адчуў, што мне лепей адкласці ручку ўбок. Ніколькі не прымхлівы чалавек, я вымушаны быў так і зрабіць, бо ў кватэры з'явілася штосьці такое, што непакоіла, насцярожвала і папярэджвала…

На другі дзень расказаў жонцы пра тую даўнюю сустрэчу з незнаёмкай на лесвіцы і пацікавіўся, ці бачыла яна жанчыну з дванаццатага паверха, якая некалі скончыла жыццё самагубствам. Якім жа было маё здзіўленне, калі жонка паведаміла, што ведала крыху яе. І што тая злоўжывала спіртным. Аднаго разу нават пазваніла ў нашу кватэру, папрасіла хоць трошкі гарэлкі. Спачатку жонка зачыніла дзверы, але праз імгненне пашкадавала гаротніцу, адчыніла і паклікала яе. Наліла чарку, а пасля таго, як тая выпіла, папрасіла больш не заходзіць, не званіць. Тая і сапраўды больш не турбавала.

— А як яна выглядала? — пацікавіўся я.

— Звычайная, невысокага росту, мілавідная, з блакітнымі вачыма. Апранутая была ў лёгкую сінюю куртку, на нагах — шэрыя тапачкі…

У мяне вочы палезлі на лоб. Я ў некалькіх словах расказаў жонцы што, напэўна, бачыў яе пасля гібелі.

— А я чула яшчэ ад некага з нашага дома, што таксама нібыта бачылі гэтую жанчыну пасля трагічнага здарэння, — сказала жонка. — Вось чаму я баюся ўначы быць дома адна. — І, памаўчаўшы крыху, дадала: — Ты больш не ўспамінай мне пра гэта. І сваё апавяданне не паказвай…

Я не стаў больш распытваць жонку, ведаючы, як цяжка яна перажывала ды і яшчэ перажывае трагічную смерць у дарожнай аварыі свайго адзінага пляменніка.

Але апавяданне, наколькі мне было «дазволена» нейкай сілай, дапісаў. Нічога не прыдумаўшы і адкрыўшы толькі тое, што адкрылася мне…

**Вытокі фантастыкі як жанру літаратуры ляжаць у старажытнай міфалогіі розных народаў свету, а таксама — у фальклорных казках. Героямі такіх твораў былі перш-наперш фантастычныя істоты і боствы, якіх вялікае мноства ў культуры Егіпта, Вавілона, Рыма і якіх мы дасюль памятаем — багоў і паўбагоў, пачвар і волатаў, кентаўраў ды іншых падобных істот.**



*Янка Маўр.*



*Джон Р. Р. Толкін.*

# Скрозь часы да далёкіх зорак

Першыя элементы фантастыкі мы знаходзім у «Адысеі» Гамера, сюжэт і яркія вобразы якой заклалі падмурак для заходнееўрапейскай фантастыкі і літаратуры ў цэлым.

Фантастыка ў сучасным выглядзе пачала афармляцца ў XIX стагоддзі ў нямецкай рамантычнай літаратуры (згадаем тут неверагодныя фантасмагорыі Эрнста Тэадора Амадэя Гофмана — «Шчаўкунок і Мышыны кароль», «Залаты гаршчок», «Курдупель Цахес»).

На пачатку XX стагоддзя з'яўляецца падвід фантастыкі, ці паўнавартаснае яе адгалінаванне, якое сёння набыло асабліва вялікую моц, — фэнтэзі (цяжка знайсці чалавека, які, напрыклад, ні разу не чуў пра серыю кніг пра Гары Потэра Джоан Роўлінг ці сагу «Песня лёду і полымя» Джорджа Марціна). Жанр фэнтэзі заснаваны на выкарыстанні міфалагічных і казачных матываў. Велізарны ўплыў на яго фарміраванне аказаў Дж. Р. Р. Толкін, які стварыў сусвет Міжзем'я, насяліўшы яго эльфамі, гномамі, оркамі, людзьмі і хобітамі. Вядома, эльфы і гномы існавалі і да твораў Толкіна, але ў масавай свядомасці гэтыя казачныя істоты існуюць якраз у тым выглядзе, які надаў ім славуты аўтар. Найбольш вядомыя творы Толкіна (іх адносяць да «высокага фэнтэзі») — «Хобіт, альбо Туды і назад» (1937), «Уладар пярсцёнкаў», які складаецца з кніг «Брацтва пярсцёнка», «Дзве вежы» і «Вяртанне караля» (1954 — 1955), і «Сільмарыліён» (1977).



1930—1950-я гады сталі «залатым векам» навуковай фантастыкі, калі яна атрымала асаблівае шырокае развіццё, што было звязана з навуковымі адкрыццямі і дасягненнямі. Ключавой постаццю жанру ў гэтым часе стаў брытанец Герберт Уэлс. Яго кнігі «Машына часу» (1960), «Чалавек-невідзімка» (1933), «Вайна светаў» (1953) і інш. паслужылі асновай для мноства перайманняў.

Да фэнтэзі можна аднесці і твор аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, альбо Беларусь у фантастычных апавяданнях» (1844 — 1846). Гэтая кніга, якую без сумневу можна назваць часткай — і значнай — падмурку беларускай літаратуры, распачала ў апошняй жанр фантастыкі і фэнтэзі ў прыватнасці. Твор, напісаны на падставе беларускіх народных казак і легенд, прывабліває сваімі паганскімі матывамі, фантазіямі, блізкімі да гофманаўскіх, і ўсё ж — глыбінна беларускімі. Прытчы-апавяданні звязаны ў творы пры дапамозе вядомага са старажытных часоў прыёму — тандэма «апавядальнік і слухач». Гасцінны шляхціц Завальня сустракае ўсіх падарожных, шчодра частуе іх і ўважліва слухае гісторыі, якія, натуральна, адбываліся насамрэч. Аддалена гэта нагадвае «Тысячу і адну ноч». У некралогу, размешчаным у часопісе «Przegląd Poznański» (1851. T. III. Poszyt 3. S. 362.), Я. Баршчэўскага назвалі «вядомым беларускім пісьменнікам», які «апранае фантастыку ў беларускія шаты».

У 1923 годзе выходзіць філасофска-фантастычная аповесць Вацлава Ластоўскага «Лабірынты», напісаная ў духу мастацкай містыфікацыі гісторыка-міфалагічнага напрамку.

Калі ж разглядаць навукова-фантастычны жанр, абавязкова трэба ўзгадаць Янку Маўра, заснавальніка навукова-пазнавальнага жанру ў беларускай літаратуры. У 1925 годзе ў часопісе «Беларускі піянер» з'явілася яго аповесць «Чалавек ідзе», якая, як лічыцца, паклала пачатак навукова-фантастычнаму жанру ў беларускай літаратуры. Тым не менш некаторыя гэтую аповесць адносяць да прыгодніцкага жанру. Нават калі і так, пазнейшыя творы — казкі «Вандраванне па зорках» (1927) і «Аповесць будучых дзён» (1932) — можна смела аднесці менавіта да фантастыкі. А ў 1954 годзе друкуецца яго навукова-фантастычная аповесць «Фантамабіль прафесара Цылякоўскага», у якой сумешчана рэальнае і фантастычнае: на энергіі дзіцячай фантазіі ўнукі прафесара Цылякоўскага Святазар і Святлана адпраўляюцца ў далёкую вандроўку — спачатку ў Амерыку, а потым — на Месяц і на Марс.

У 1932 годзе ў часопісе «Маладняк» (№ 7 — 8) з'явілася першая частка навукова-фантастычнага рамана «Вызваленне сіл» Змітрака Астапенкі. Але ў 1933 годзе аўтар быў арыштаваны НКУС па справе «Беларускай народнай грамады», і, верагодна, раман так і не быў скончаны.

У 1959 годзе выйшла кніга Міколы Гамолкі «Шосты акіян» — навукова-фантастычны раман пра касмічны акіян. А ў 1962 была выдадзена аповесць пра пра касмічную экспедыцыю на Марс і Плутон «Апошняя арбіта» Уладзіміра Шыціка, услед за якой выходзяць зборнікі «Зорны камень» (1967), «Парсекі за кармой» (1970), «У час не вярнуліся» (1975), «Трансплутонавыя Афеліі» (1982). Іх асноўная тэма — бясконцыя абшары космасу і яго адважныя даследчыкі і заваёўнікі.

У лютым 1981 года ў газеце «Знамя юности» пісьменнік Уладзімір Цвяткоў падрыхтаваў першы выпуск «Клуба аматараў фантастыкі» (з аўтараў і чытачоў клуба ўтварыўся першы ў Беларусі клуб аматараў фантастыкі «Цыялкоўскі»). Рубрыку пазней змяніла «Фантастыка. Гіпотэзы. Прагнозы», затым з'явіўся «ФАЭТОН» (Фантастыка. Эксперыменты. Тэорыі. Досведы).

У сярэдзіне-канцы 1980-х гучна заявіў пра сябе творчы дуэт Юрыя Брайдэра і Мікалая Чадовіча. Пачатак іх доўгаму і плённаму супрацоўніцтву паклаў аповед «Парушальнік» (1983) у газеце «Знамя юности». Вядомасць жа аўтарам прынеслі «Тэлепатычная стрэльба» (1987) і «Евангелле ад Цімафея» (1991). У суаўтарстве, якое працягнулася і ў пачатку 2000-х, былі напісаныя цэлыя цыклы твораў: «Светы пад лязом сякеры», «Сцежка», «Адмысловы аддзел», «Паляванне на Мінатаўра».

Павел Місько ў вясёлай і нязмушанай форме ў фантастычнай аповесці «Эрпіды на планеце Зямля» (1987) распавядае дзецям пра жывёльны і раслінны свет Зямлі ад імя робатаў-выведнікаў. Частку сваіх твораў у прыгодніцка-фантастычным жанры прысвяціў дзецям і Аляксей Якімовіч у кніжках «Эльдарада просіць дапамогі» (1989), «Сакрэт Тунгускага метэарыта» (1993). Звярнулася да дзіцячай фантастыкі і Раіса Баравікова — да гэтага жанру належаць яе творы «Галенчыны «Я», альбо Планета Цікаўскіх Хлопчыкаў» (1990) і «Дзве аповесці пра міжпланетнага пажарніка» (1996).

Творы Васіля Гігевіча, у якіх даследуюцца сучасныя праблемы існавання цывілізацыі ў Сусвеце, адметныя псіхалагізмам і філасофскімі разважаннямі. Да навукова-фантастычнага жанру найбольш блізкая яго аповесць «Марсіянскае падарожжа» (1990), дзе галоўны герой, журналіст, вырашыў назаўжды пераехаць на Марс і жыць там пад кіраўніцтвам штучнага інтэлекту. У 2012 годзе ў выдавецтве «Літаратура і мастацтва» выйшла кніга «Крах цывілізацыі», у якую ўвайшлі чатыры найбольш яркія яго творы — «Карабель», «Марсіянскае падарожжа», «Палтэргейст», «Страчанае шчасце».

Нечакана звярнуўся да фантастыкі і вядомы беларускі дэтэктыўшчык Мікалай Чаргінец — размова ідзе пра раман «Ілоты вар'яцтва» (1995). У ім апавядаецца пра кіраўніка міжнароднай тэрарыстычнай арганізацыі, які марыць пра бязмежную ўладу над светам. Сярод герояў кнігі прысутнічаюць апроч іншых і прышэльцы з космасу, якія аб'ядналіся разам з людзьмі і супрацьстаяць сілам Зла ў барацьбе за выратаванне чалавецтва ад катастрофы.

Плённа працуюць на ніве фантастыкі Аляксандр Сілецкі і Наталля Новаш — муж і жонка. Ён піша навуковую, сацыяльную фантастыку, яна — збольшага казкі і раманы-фэнтэзі, але мае і навукова-фантастычныя творы. А. Сілецкі — аўтар больш як 70 фантастычных аповедаў.

Адметнай з'явай стаў постмадэрнісцкі раман Андрэя Федарэнкі «Рэвізія» (2004). Аўтар пачаў працу над ім яшчэ ў 1987-м, працягнуў у 1992-м і завяршыў у 2003-м. Галоўны герой, Алесь Трухан, у канцы 1980-х гадоў на аснове сваіх бачанняў ці сноў, якія яго перыядычна наведваюць, піша раман пра 1920-я гады. А галоўны персанаж рамана Трухановіча, Алесь Трухановіч (кантужаны чырвонаармеец з амнезіяй), «успамінае» сваё будучае жыццё, жыццё Трухана ў канцы 1980-х.

Далучыўся да кола фантастаў і Алесь Бадак, які апублікаваў у часопісе «Маладосць» (2004 г. № 12) аповесць «Не глядзіце ў снах на поўню». Твор таксама ўвайшоў у анталогію «У зеніце — Антарэс» (2008).

Знакамітая сваёй шматграннай творчасцю Людміла Рублеўская. Яе фантастычнае апавяданне пра Ведзьмака «Адзінка» ўвайшло ў зборнік беларускай фантастыкі «Люстэрка Сусвету» (2007 ). Але найбольш вядомыя яе фантастычна-містычная аповесць «Дзеці гамункулуса» (1999), у аснову якой пакладзена легенда пра чарнакніжніка пана Твардоўскага, раманы «Скокі смерці» (2005), дзе журналістка і рэстаўратар разгадваюць таямніцу сярэднявечных гадзіннікаў, і «Забіць нягодніка, альбо Гульня ў Альбарутэнію» (2007), у якой група маладых людзей знаходзіць партал, праз які яны адпраўляюцца ў 1930-я гады.

Добра вядомыя ў Беларусі і за яе межамі творы Андрэя Жвалеўскага, які напісаў вялікую колькасць раманаў у суаўтарстве з Я. Пастарнак і І. Мыцько. Апроч цыкла фантастычнай пароды «Поры Гатэр» (у суаўт. з І. Мыцько), аўтар напісаў раманы «Майстар сурокаў» (2005) і «Майстар сілы» (2005). За іранічны раман жахаў «Тут вам не нанясуць ніякай шкоды» (2006) Жвалеўскі і Мыцько атрымалі ў 2007 г. на Міжнароднай літаратурнай канферэнцыі па пытаннях фантастыкі «РасКан» прэмію «Аліса» (за лепшы фантастычны твор для дзяцей).

Яшчэ адна беларуская пісьменніца, добра вядомая за межамі Беларусі, — Вольга Грамыка, аўтар Беларыйскага цыкла пра ведзьму Вольху, піша кнігі ў жанры гумарыстычнага фэнтэзі. Яе раман «Прафесія: ведзьма» на міжнародным фэсце «Зорны мост-2003» (г. Харкаў) атрымаў прыз «Меч Без Імя» за лепшы дэбютны раман у жанры гумарыстычнай і вострасюжэтнай фантастыкі.



Не застаюцца ўбаку і самі выдавецтвы. Так, «Мастацкая літаратура» выдала дзве анталогіі фантастычных аповедаў: ужо згаданыя «Люстэрка Сусвету» (2007) і «У зеніце — Антарэс» (2008). Выдавецтва «Харвест» сумесна з Саюзам пісьменнікаў Беларусі ў серыі «Беларуская сучасная фантастыка» выдала зборнікі Алеся Аляшкевіча «Дзеці зорак» (2009), Генадзя Аўласенкі «Дзікія кошкі Барсума» (2009), аповесць Зінаіды Дудзюк «Аднарог» (2010). У выдавецтве «Літаратура і Мастацтва» выйшаў зборнік казак і аповедаў пра космас «Касмічная кніга» (2010).

Спіс аўтараў беспярэчна папаўняецца новымі імёнамі, і многія з іх заяўляюць пра сябе дастаткова гучна.

**Алег ГРУШЭЦКІ**

# Катастрофа і каханне будучыні



**У «Маладосці» (№№ 6 — 7) была апублікавана аповесць Віталіі Багун «Гігантык». Гісторыю пра турыстычнае падарожжа некалькіх тысяч зямлян на Юпітэр можна смела аднесці да навуковай фантастыкі. Аўтарка запрашае чытача ў будучыню, каб паказаць, як змяніліся Зямля, грамадства і сам чалавек.**

Падчас палёту на касмічным лайнеры пасажыры трапляюць у разнастайныя сітуацыі, якія вымушаюць іх дзейнічаць у адпаведнасці са сваімі жыццёвымі прынцыпамі. Сутыкненне «Гігантыка» з астэроідам становіцца ключавой падзеяй, якая расстаўляе кропкі над «і» ў лёсах касмічных турыстаў.

Са сродку перамяшчэння «Гігантык» ператвараецца ў асобную краіну ці нават планету, на якой складваецца адмысловы лад жыцця. Апошняя мадэль касмічнага лайнера сабрала на сваім борце людзей розных прафесій, узросту, нацыянальнасцей (пра што сведчаць імёны), адрознага светапогляду і выхавання.

Аднак пры гэтым паміж пасажырамі лайнера не існуе моўных бар'ераў. Усе героі размаўляюць па-беларуску. Зразумела, яны дзейнічаюць у беларускамоўнай аповесці, але раптам аўтарка пераконвае чытача, што наша мова стане адзінай для жыхароў усёй Зямлі і па-за яе межамі?..

Віталія Багун закранае ў творы адвечна актуальныя праблемы самых розных маштабаў: наладжванне міжпланетных сувязей, сістэма каштоўнасцей у грамадстве, міжасобасныя адносіны, канфлікт асобы з унутраным «я». Пытанні асваення чалавекам касмічнай прасторы займаюць тут далёка не першае месца. Аўтарка звяртае ўвагу на складаныя моманты ўзаемаадносін паміж людзьмі, у прыватнасці, на непаразуменні бацькоў і дзяцей (што выдатна адлюстроўвае прыклад Аўроры і спадара Ніколіча), крывадушныя адносіны жонкі і мужа (Астра і Тэадор Пырнік). У творы выразна акрэслена праблема інтэлектуальнай дэградацыі чалавецтва: «…яму было цікава, што Саламея чытала. Ён быў здзіўлены, што яна ўвогуле ўмела чытаць», «…хаця кнігамі доўгі час ужо ніхто не карыстаўся…».

Асаблівае месца ў аповесці займае пытанне знішчэння духоўнага свету асобы. Такія заганы чалавечай натуры, як пыха, зайздрасць, ганарлівасць, прага «лёгкіх» грошай, на думку пісьменніцы, не толькі «забіваюць» душу, але часам прыводзяць да фізічнай смерці чалавека. Так, Менахем Грын (фінансіст па прафесіі) з самага пачатку касмічнай вандроўкі шукае магчымасць забіць Рафаэля Кліментавіча — кіназорку, у якога закаханая «прыгажэйшае сапрана ў Сонечнай сістэме» Антуанэта Цюль. Безадказнае каханне Менахема да спявачкі падштурхоўвае яго да злачынства. Грын вырашае здзейсніць забойства, але не сваімі рукамі. Па дапамогу ён звяртаецца да «пасажыра трэцяга класа» Ката Трума (дарэчы, якраз імя ўказвае на прызначэнне названага героя ў творы). Грошы — плату за забойства — Трум бярэ без сумненняў і ваганняў, праўда, пазней за спробу злачынства пазбаўляецца ўласнага жыцця.

Процілегласцю Менахема Грына з'яўляецца Рафаэль Кліментавіч. Ён зведаў усе выгоды жыцця знакамітасці (славу, грошы, задавальненне ўсіх жаданняў і інш.). Але ці лічыць гэты чалавек сябе шчаслівым? Ён падаецца легкадумным, часам мяккацелым, аднак у крытычнай сітуацыі паводзіць сябе непрадказальна рашуча і смела. У чым прычына? Не абышлося тут без кахання. Рафаэль быў вядомы ў грамадстве не толькі як зорка шматлікіх кінастужак, але і як выдатны палюбоўнік. Пераважная большасць людзей з яго акружэння — жанчыны, з якімі ён меў і прафесійныя, і інтымныя адносіны. З'яўленне на лайнеры інжынера Жасмін Бетэльгейзэ карэнным чынам змяняе Рафаэля. Для яго Жасмін — ідэал жанчыны, жонкі, маці.

Падрабязна апісваюцца ў творы стасункі паміж мужчынам і жанчынай. Часцей за ўсё гэтыя зносіны заснаваны на жаданні самасцвярджэння праз тое, каб быць з лепшым/лепшай. Аднак знайшлося месца і сапраўднаму каханню, заснаванаму на паразуменні і ўзаемадапамозе.

У спакойнае, размеранае жыццё жыхароў «Гігантыка» прыходзіць бяда: карабель сутыкнуўся з астэроідам. Унікальны суперсучасны касмічны лайнер, створаны рукамі чалавека, робіцца яго ж пагібеллю. «Гігантык" ператвараецца ў вялікую пастку, у пераходах якой заблыталіся тысячы людзей, асуджаных на гібель, незалежна ад таго, ці імкнуліся яны зрабіць нешта, каб выратавацца». Створаная ў дапамогу чалавеку тэхніка можа стаць прычынай яго знішчэння.

Экстрэмальная сітуацыя раскрывае многіх герояў. Капітан Георг Славінскі своечасова аддае загады, якія захоўваюць жыцці тысячам людзей. Доктар Розан, які падчас палёту лячыў чалавечыя целы, цяпер намагаецца ратаваць душы. Сваёй прамоваю ён дае надзею асуджаным на смерць людзям. Усяслаў Зорыч — стваральнік «Гігантыка» — адчувае сваю віну, таму як можа дапамагае іншым. Катастрофа стала лёсавызначальнай падзеяй у жыцці многіх герояў: нехта згубіў блізкіх, а хтосьці знайшоў сваё шчасце.

Такім чынам, уводзячы ў твор надзвычайную сітуацыю, аўтарка характарызуе людзей будучыні. Хтосьці гатовы аддаць сваё жыццё дзеля іншага (Рафаэль — дзеля Жасмін, капітан Славінскі і Зорыч — дзеля пасажыраў), а нехта, ратуючы сябе, забываецца на тых, хто побач. Напрыканцы аповесці выжываюць толькі самыя вартыя. Як бачым, людзі будучага мала адрозніваюцца ад сённяшніх, але ёсць надзея, што нашы далёкія нашчадкі будуць лепшымі за нас.

Варта адзначыць схільнасць пісьменніцы характарызаваць вобразы герояў не праз аналіз іх дзеянняў, а праз наданне ім красамоўных прозвішчаў (Крылля Жабіна, Кат Трум і інш.). Мова герояў суадносіцца з жанрам твора, пры гэтым не ўзнікае неабходнасці звяртацца да слоўнікаў ці энцыклапедый, каб удакладніць сэнс шматлікіх навуковых тэрмінаў.

Кампазіцыя аповесці не дазваляе чытачу пераключыцца на нешта іншае, твор чытаецца хутка і лёгка. Магчыма, прычынай таму — выкарыстанне прыёмаў «забягання наперад» і рэтраспекцыі. Наяўнасць некалькіх храналагічных ліній спрыяе ўважліваму чытанню. Успаміны галоўнага героя часта перарываюць асноўную сюжэтную лінію, прычым па меры яе развіцця паглыбляецца зварот у мінулае.

Аповесць папярэджвае людзей пра магчымыя вынікі навукова-тэхнічнай рэвалюцыі і вымушае задумацца пра тое, як у сучасным свеце застацца Чалавекам.

**Вікторыя ГАБРУСЕВІЧ**

## ЛіМаграфія



**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Рэцэнз-і-Я. 2

Мінулым разам мы пачалі гаворку пра рэцэнзію: што гэта такое і як яе трэба пісаць. Нашы пазаштатныя аўтары — цяперашнія і будучыя — такім чынам атрымалі парады, якія, спадзяюся, дапамогуць у працы як ім, так і нам. Сёння ж я хачу прывесці прыклад рэцэнзіі, якую пісаць не трэба. Гэта можа падацца дзіўным, але, як вядома, прыклад — найлепшы сродак навучання, асабліва калі ён падобны да «шкодных парад». І ўвогуле, кажуць, быццам бы на памылках вучыцца вельмі лёгка, а калі яны яшчэ і чужыя — нават прыемна.

Адразу зазначым, што кожная рэцэнзія — унікальны твор мастацтва (прынамсі, хочацца ў гэта верыць), і нельга ставіцца да яе як да інструкцыі да электрачайніка (пад словам «ставіцца» разумеем як «пісаць», так і «чытаць»). Канечне, калі вы лічыце, што крытыка — сервільны від дзейнасці, то бок — другасны адносна літаратуры, яе верны і адданы служка, — то, напэўна, не варта губляць час на гэтую калонку.

Але вернемся да нашага антыпрыкладу.

Перачытаўшы вялікае мноства рэцэнзій, падобных адна да адной настолькі, што ўзнікаюць падазрэнні самыя фантастычныя (пачынаючы з чытача, які апантаны крытычнай настальгіяй, што піша адразу пад дзясяткам псеўданімаў, і заканчваючы штучным інтэлектам, запраграмаваным на напісанне рэцэнзій-клонаў), мне падумалася: няблага было б сабраць агульныя падступныя месцы і паставіць каля іх знак «STOP!», усё адно як перад зыбучымі пяскамі ці балотам.

«Янка Ямбаў (назавём нашага паэта так) — вядомы паэт, член Саюза пісьменнікаў Беларусі…» Пра тое, што рэцэнзія, якая так пачынаецца, здаецца сумнай і нецікавай, казаць не будзем. Справа ў іншым: калі паэт вядомы, не трэба адзначаць, што ён такім з'яўляецца. Другое, «член Саюза пісьменнікаў» — гэта яшчэ не ўсё. Іншая справа — калі б ён уваходзіў у Саюз металургаў ці паталагаанатамаў: па-першае, гэта цікава, па-другое, прафесія аўтара можа ўплываць на творчасць.

«Янка Ямбаў нарадзіўся ў вёсцы Янкава пэўнага раёна пэўнай вобласці ў пэўным годзе. Скончыў школу, пайшоў у армію, паступіў ва ўніверсітэт, ажаніўся, працаваў» (патрэбнае падкрэсліць, паставіць у належным парадку). Не хачу падацца чалавекам грубым ці бяздушным, але чытачу ўсё адно, у якой школе вучыўся Янка. Прынцып той самы: калі факт біяграфіі не мае відавочнага і значнага ўплыву на творчасць (пэўны твор, кнігу), для крытыка ён не ўяўляе каштоўнасці. Вы не біёграф — вы рэцэнзент.

«Аўтар зборнікаў «Любоў» (год), «Надзея» (год), «Вера» (год) і многіх іншых. Друкаваўся ў калектыўных зборніках (пералік), мае публікацыі ў газетах (пералік, не выключаючы шматтыражку мясцовага мясакамбіната)». Скажу кашчунскую рэч: колькасць зборнікаў іграе яшчэ меншую ролю, чым школа, якую скончыў паэт Янка. Вялікая колькасць зборнікаў сведчыць не пра тое, што аўтар — сапраўды паэт, але — часцей за ўсё — пра наяўнасць вольнага часу, грошай і адсутнасць самакрытыкі (звяртаю вашую ўвагу на словы «часцей за ўсё»). Яшчэ адзін значны момант. Пералік назваў нічога чытачу не скажа. Ёсць сэнс называць папярэднія кнігі, калі вы хоць у двух словах адзначаеце адметнасць кожнай. Сэнс рэцэнзіі не ў тым, каб як мага болей распавесці пра Янку Ямбава, але ў тым, каб мага глыбей раскрыць сутнасць кнігі, даць трапныя заўвагі адносна творчасці аўтара на гэтым этапе.

А цяпер — самае страшнае. «Вершы Янкі Ямбава прасякнутыя светлым пачуццём. Ён замілавана назірае за прыродай, любуецца ёю. Жорсткасць і абыякавасць свету глыбока кранаюць душу паэта, ён заклікае быць чуйнымі і добрымі да людзей. Янка Ямбаў з тугою назірае за тым, як знікае беларуская вёска. Паэт заклікае любіць родную мову, шанаваць спадчыну…» Чалавек, які шануе прыроду, Бацькаўшчыну і мову, без сумневу, добры чалавек. Але гэта не значыць, што ён паэт. Рэцэнзент павінен гэта разумець!

Так, у кожнага паэта знойдзецца верш на сакральную беларускую тэму, але гэта не значыць, што рэцэнзент мае права сказаць пра выбітны мастацкі твор, што ён «прысвечаны роднаму куточку і прасякнуты любоўю». Талент крытыка мусіць быць сувымерным таленту пісьменніка.

Любіце Радзіму, шануйце прыроду, пішыце добрыя рэцэнзіі.

Аблiччы

# «Мы яшчэ пажывём!»

**16 верасня 1987 года ў Доме творчасці пісьменнікаў імя В. Дуніна-Марцінкевіча адкрыўся семінар замежных перакладчыкаў беларускай літаратуры. На запрашэнне прыбылі творцы з Балгарыі і Польшчы, Чэхаславакіі і ГДР, Венгрыі і Югаславіі. За 10 дзён удзельнікі нарады-семінара праслухалі курсы мовы і літаратуры, азнаёміліся з дзейнасцю выдавецтваў, насычанай была і культурная праграма.**



Фота Сяргея Панізніка

*На згадку пра тую навуку ў «Іслачы» — вераснёўскі здымак. На ім справа налева: Вячаслаў Рагойша — адзін з арганізатараў семінара, прафесар БДУ; Максім Танк — народны паэт Беларусі, старшыня праўлення СП БССР; Таццяна Кабржыцкая — кандыдат навук, дацэнт кафедры славянскіх літаратур БДУ; Фларыян Няўважны — прафесар Варшаўскага ўніверсітэта, даследчык творчасці Я. Купалы, І. Мележа, Я. Брыля, перакладчык вершаў М. Танка, П. Панчанкі ды інш., даўні кіеўскі сябрук У. Караткевіча; Раман Іваничук — львоўскі, зусім не «замежны перакладчык», празаік-раманіст (будучы Герой Украіны), Вацлаў Жыдліцкі — доктар філалогіі Карлава ўніверсітэта, перакладчык кнігі "Я з вогненнай вёскі" А. Адамовіча, Я. Брыля, У. Калесніка, твораў В. Быкава, У. Караткевіча, А. Карпюка, І. Пташнікава, І. Шамякіна, укладальнік анталогіі беларускай паэзіі, аднатомнікаў Я. Купалы і М. Танка; Іван Шамякін — народны пісьменнік Беларусі, старшыня Беларускага камітэта абароны міру. Дом творчасці «Іслач». Верасень 1987 г.*

Літаратурныя стасункі горача абмяркоўваем і сёння. А 27 гадоў таму я пакідаў запісы з розных сустрэч на семінары, дзе лунала ў паветры сакральнае пытанне, звінела стрэмка штодзённага клопату: «Як наша слова адзавецца?» 24 верасня ў "Чырвонай змене" быў змешчаны мой допіс пад назвай «Перакладчыкі — шпалаўкладчыкі…» Перакладчыкаў называлі на семінары пракладчыкамі шляхоў ад сэрца да сэрца. А шпалаўкладчыкамі сталі тагачасныя перакладчыкі ў дасціпным вершы Рыгора Барадуліна.

У допісе я пералічыў выданні, якія працуюць на «дружбу народаў, дружбу літаратур»: штогоднікі «Ветразь», «Даляглядьі», выдавецкія серыі «Паэзія народаў свету», «Кніга перакладчыка», «Бібліятэка замежнай прозы», «Скарбы сусветнай літаратуры»…

Свае масты дружбы і ўзаемаразумення наладжваў і семінар у Доме творчасці «Іслач» пад Ракавам. Узгадваецца актыўны ўдзельнік семінара — прафесар Карлава ўніверсітэта доктар Вацлаў Жыдліцкі, беларусазнаўчай працай якога зацікавіўся ў Львове яшчэ ў 1960-х гадах. На творчым рахунку майго даўняга знаёмага каля 30 выдадзеных ім кніг 14 беларускіх аўтараў.

Удумліва гаварылі пра садружнасць і духоўнае ўзвышэнне на семінарскім «круглым стале», тэма якога была акрэслена так: «Стан і задачы беларуска-замежнага літаратурнага ўзаемадзеяння». Пасля аналітычнага выступлення Уладзіміра Сакалоўскага пра беларуска-нямецкія літаратурныя сувязі В. Жыдліцкі нават пажартаваў: «У нас няма такога Сакалоўскага…» Але былі выдатныя людзі, якія збліжалі дзве нацыі, і прамоўца назваў Адальфа Чэрнага, Ёзэфа Гору… Пахваліўся прафесар, што ўгаварыў перакладаць беларускіх аўтараў і маладога паэта Карэла Сыса (а я пазней угаворваў Анатоля Сыса перакладаць вершы чэшскага цёзкі па прозвішчы).

Спадабалася выказванне балгарына Найдзена Вылчава: «Сустрэчу з радзімай аўтара, якога перакладаеш, няма чым замяніць». І яшчэ адно запомнілася: «Перакладаю тое, што мяне пакарыла». А вось сакратар ЦК КПБ В. А. Пячэннікаў зусім не пажартаваў, ухваляючы дбайна арганізаваную чэшскую школу тлумачоў: «Жыдліцкі стварыў сям'ю перакладчыкаў».

Старшыня секцыі мастацкага перакладу і літаратурных узаемасувязей Саюза пісьменнікаў Вячаслаў Рагойша адзначыў пра Рыту Браўн з Берліна, што для яе не толькі пачынае раскрывацца свет беларускамоўнай культуры. А я ў сваіх запісах знайшоў выказванне самой Рыты Браўн: «Радзіма пра мяне не забылася. Адчуваю душэўны пад'ём. Мы яшчэ пажывём!»

Мяне зацікавілі яе словы пра Радзіму. Аказваецца, жыхарка Берліна нарадзілася ў Дзісне. Тры сястры рана страцілі бацькоў. Рыта вучылася ў польскай гімназіі. Пазней стала рэпетытарам у дзяцей нямецкіх памешчыкаў. Бліжэйшыя яе родзічы жылі ў СССР, яны і ўзялі сірот на выхаванне. Рыта працавала карэктарам. З друкарні, калі пачалася вайна, трапіла на фронт. Служыла дыктарам, перакладчыцай. Пад Бранскам яе кантузіла. А ў лютым 1943 г. пад Сталінградам правяла допыт палоннага нямецкага сапёра-лейтэнанта. Ім аказаўся Леа Раўбаль, пляменнік Гітлера.

З Рытай Браўн мы гаварылі і пра руска-польска-беларускі склад дзісненскіх гаворак.

Зацікавіў мяне і ўдзельнік семінара Мечыслаў Яцкевіч, які нарадзіўся ў 1931 г. у Валожынскім павеце. У 1954 г. выехаў у Польшчу. Жыве ў Ольштыне. Некаторыя ўсплёскі з яго выступленняў таксама засталіся ў нататніку: «Хочацца рабіць для беларускага народа ў Польшчы». «За беларускае сэрца вялікая ахвота падзякаваць маім сябрам»… М. Яцкевіч не парывае сувязяў з Адамам Мальдзісам. І мне перападала дабрыні ад пана Мечыслава, за што яму бясконца ўдзячны.

Столькі гадоў прамінула з тых сустрэч, а нібы сёння гучаць словы Мамчыла Джэркавіча з Бялграда: «Мы былі ў вас як дома. «Калі ласка, дзядзька…» Я пачуваю сябе вельмі маладым». Здаецца, усё яшчэ не закончыўся пералік Найдзенам Вылчавым яго ўлюбёных аўтараў: «…А гэта Панчанка, Быкаў, Бічэль, Вярцінскі, Танк, Сіпакоў, Мацяш, Законнікаў, Янішчыц, Зуёнак…»

Углядаюся ў здымак: на ганку роднага дома стаіць Вячаслаў Рагойша. Побач са Славам — яго мама і сынок. А сам ён распавядае пра сваю радзіму Норберту Рандаву з Берліна і Вацлаву Жыдліцкаму з Прагі. Шчымлівымі аказаліся і тыя хвіліны, калі мы віншавалі чэха Уладзіміра Міхну з яго 60-годдзем.

А вось некалькі сказаў з нататніка ў заканчэнне дзесяці семінарскіх дзён: «27.09.1987. Пасля позняй вячэры самоціліся ў файе, аж пакуль Янка Брыль з Нінай не расспявалі ўсіх. Потым у Чэслава Сенюха (ён родам з-пад Наваградка) сабраліся. Янку Брыля запісвалі на гдальскі магнітафон. Сон з паловы першай да паловы чацвёртай. Гадзіна чакання ў аэрапорце. Развітанне з чэхаславацкай дэлегацыяй…»

Мае асабліва цёплыя стасункі з пражакамі не перарываліся і надалей. Праз год, дзякуючы клопатам Вацлава Жыдліцкага, я трапіў на курсы Летняй школы славяназнаўства пры Карлавым універсітэце, бо сам хацеў стаць шчырым перакладчыкам-«перакрадчыкам»...

**Сяргей ПАНІЗНІК**

З пошты «ЛіМа»

# Сустрэчы на беразе Свіслачы

Пішу да вас як шматгадовы чытач газеты і як заўзяты аматар беларускай літаратуры. Жыццё быццам ідзе марудна, а — праходзіць… Яшчэ ўчора мне, маламу, да школы купляў каляровыя алоўкі Пятро Глебка, а ўжо і я сам пасівелы, і паэта няма... Не сустрэнеш на вуліцах Мінска жывых класікаў К. Крапіву, М. Лынькова, Я. Маўра, А. Бачылу і многіх іншых. Цешуся тым, што жыла тады і жыве цяпер газета «ЛіМ».

Майму сяброўству з ёй больш як 50 гадоў. У 1964 годзе я пачаў працаваць на Мінскім мотавелазаводзе і 35 гадоў быў адказны за падпіску на газеты і часопісы. Прычым арыентаваў падпісчыкаў на беларускія выданні, сярод якіх была і газета «ЛіМ». Шмат чаго пабачыў, шмат дзе даваліся пабываць, але заўсёды з цікавасцю чытаў нашу перыёдыку і дасюль упэўнены: друкаванае слова трэба падтрымліваць і прапагандаваць.

Мару, каб у Мінску была вуліца Лімаўская! Каб уся нашая моладзь любіла сваё — культуру ў шырокім сэнсе, — мову, песні… На вершы многіх паэтаў, асабліва П. Броўкі, А. Бачылы і А. Ставера, напісаны прыгожыя песні, якія даўней, здаецца, спявалі ўсе.

У жніўні споўнілася 85 гадоў з дня нараджэння Алеся Ставера, лірычнага паэта, аўтара многіх светлых кніжак. У свой, даўно мінулы, час я добра ведаў Аляксандра Сяргеевіча. Толькі такі чалавек, як А. Ставер, які «згубіў» сваё дзяцінства ў гады вайны, спазнаў усе яе жахі, мог напісаць верш «А мне ў шчасце верыцца», які, дарэчы, таксама паклалі на музыку.

А хто са старэйшага пакалення не ведае такія песні на словы А. Ставера, як «Беларусачка», «Косіць хлопец канюшыну», тыя ж «Жураўлі»?..

У 1969 годзе выйшла кніга Алеся Ставера «Пад канвоем». Добра памятаю, як мы сядзелі на беразе ракі Свіслач пад прыгожай вярбой і адзначалі выхад кнігі. На гэтым месцы часта збіраліся А. Ставер, паэт-сатырык М. Вяршынін, літаратурны крытык Р. Бярозкін, У. Нядзведскі і аўтар гэтага ліста. Шмат гаварылі, успаміналі. На мінулым тыдні я прыйшоў да Свіслачы, да той самай вярбы (раён вуліцы Аранскай), каб прыгадаць даўнія сустрэчы і самога Алеся Ставера. Для мяне ён назаўжды застанецца чулым, паважным чалавекам з добрым сэрцам і светлай, крынічнай чысціні, душой.

**Уладзімір ГОЛУБЕЎ**

# Верш і малітва

Яўген Сергіеня — магістр багаслоўя... і паэт. Гэтага чалавека мала хто ведае, але яго творчасць можа сказаць значна больш, чым прозвішча.

Яшчэ гадоў дзесяць таму Яўген Аляксандравіч нават падумаць не мог, што пачне пісаць вершы. Працаваў сталяром, але ў 1993 годзе атрымаў багаслоўскую адукацыю і стаў святаром. У сорак пяць гадоў зразумеў, што пакліканы акрамя царкоўных спраў займацца іншымі — літаратурнымі. У выніку з'явіліся кнігі «Неба прамаўляе», «Гадзіна малітвы», «Насуперак» і «Дотык будучыні».

Паэт стараецца дапамагчы людзям не толькі паверыць у сябе і прыгажосць свету, але і зірнуць на ўсякую сітуацыю іншым поглядам. Паэт часта выкарыстоўвае біблейскія гісторыі, праводзячы паралелі з сучаснасцю.

«Чаму вы сталі пісаць вершы на беларускай мове?» — часта пытаюцца ў Яўгена Аляксандравіча, на што ён адказвае: «Гэта сапраўдны цуд, бо па-беларуску не размаўляў дваццаць пяць гадоў. Але любоў да Беларусі перамагла». Цяпер святар імкнецца прывіваць любоў да мовы вернікам, бо часам людзі абыякава ставяцца да спадчыны.

**Эльвіра ГАРОШКА**

# Сваякі па… Мілашах

**Вечарына «Міла-ШОУ: Збіраемся пад зоркай Мілашаў!» прайшла ў сталічным «Кніжным салоне». Гэтая імпрэза стала працягам творчага праекта «Мілашоўска-Мілашаўскія чытанні», распачатага ў 2011 годзе пісьменніцай-казачніцай Аленай Масла.**



Фота Марыны Весялухі

*Падчас Мілашоўска-Мілашаўскіх чытанняў выступае пісьменніца Наталля Бучынская.*

## ПРЫПЫНАК ІДОЛТА-МІЛАШОВА

За час існавання праекта Чытанні перактварыліся ў сапраўдную суполку землякоў, а таксама аматараў прыгажосці мілашоўскіх зямель. На многіх імпрэзах, якія ўжо прайшлі ў Мінску, Мёрах, Віцебску, мястэчку Друя, што на Браслаўшчыне, вёсках Павяцце, Мілашова і Ідолта на Мёршчыне, выступалі вядомыя літаратары, музыкі. Падчас нядаўняй сустрэчы ў сталіцы да гэтай уже вялікай сям'і далучыліся новыя сваякі — мастачка Аксана Аракчэева, краязнаўца з Чарэі Таццяна Казлоўская, стваральнік фільма «Чарэя Аскара Мілаша» Аляксандр Матафонаў, акцёр ТЮГа, аўтар праграмы пра Мілашова-Ідолта з серыі «Падарожжы дылетанта» Юры Жыгамонт, спявак і музыка Сяржук Доўгушаў і многія іншыя. Падчас імпрэзы адбыўся вернісаж мастацкай выстаўкі «Край блакітных азёр» Барыса Аракчэева. Аднак пра ўсё па парадку.

З маленькімі вёсачкамі Мілашова і Чарэя, што на Мёршчыне і Чашнiччыне, звязаныя імёны вядомых еўрапейскіх пісьменнікаў Чэслава і Аскара Мілашаў. Калі зазірнуць глыбока ў гісторыю, можна прасачыць, што вёска Мілашова ўпершыню згадваецца ў дакументах XVI стагоддзя. У 1725 — 1824 гадах гэтай мясцовасцю валодалі Сапегі. Падчас далучэння краю да Расійскай імперыі ўся шляхта павінна была прысягнуць на вернасць імператрыцы Кацярыне II пад пагрозай канфіскацыі маёнткаў. Але Францішак Сапега, як і многія іншыя магнаты, адмовіўся ад прысягі, а маёнткі свае прадаў за бясцэнак. Так гэтыя землі, а таксама Чарэя, што недалёка ад Лукомля, з 1830 года сталі належаць Іосіфу Мілашу, шляхціцу з Коўна, які быў на службе ў магната. Ад прозвішча ўладальніка паходзіць і назва вёскі — Мілашова.

У Іосіфа Мілаша было два сыны — Адам і Яўгеніюш. Яўгеніюш адбудаваў фальварак Ідолта-Мілашова. Адзін з яго сыноў — Артур (ён, верагодна, атрымаў у спадчыну Чарэю) — і быў дзедам славутага французскага паэта-сімваліста Аскара Мілаша (нарадзіўся і правёў дзяцінства ў Чарэі). Аскар жа быў дзядзькам і настаўнікам польскага пісьменніка, нобелеўскага лаўрэата ў галіне літаратуры Чэслава Мілаша.

Тое, што карані Чэслава Мілаша — у Беларусі, адчуваецца і ў яго творах. У іх згадваюцца назвы нашых гарадоў, мястэчкаў, у Мілаша ёсць нават верш пра Оршу. Ён звязаны з успамінамі маленства, калі будучы славуты пісьменнік яшчэ падлеткам у час Першай сусветнай вайны разам з сям'ёй выязджаў у бежанства. На чыгуначнай станцыі ў Оршы ён ледзь не згубіўся, таму ўсё жыццё гэтая станцыя ў пісьменніка атаясамлівалася з няспынным рухам.

Але на тым літаратурная гісторыя Мілашова не заканчваецца. З землямі гэтай парафіі звязаны лёс пісьменніка і святара Пётры Простага (сапр. Ідэльфонс Бобіч). З 1915 года служыў у «старым» касцёле (так яго называюць мясцовыя жыхары, бо ў вёсцы ёсць і «новы», пабудаваны ў 1939 годзе), які калісьці быў фамільным склепам Мілашаў. Яго служэнне скончылася ў Ігі, дзе падчас вайны быў расстраляны фашыстамі. Недалёка ад Мілашова, у Якужах, нарадзіўся вядомы грамадскі дзеяч, выдавец, публіцыст Язэп Малецкі. Пасля ён жыў і працаваў у Германіі, Аўстраліі, дзе і пахаваны. З Мілашовам звязаныя імёны каталіцкага святара і нацыянальнага дзеяча Язэпа Гайлевіча, а таксама выдаўца, заснавальніка віленскага часопіса «Золак» Аўгена Аніські.

Калі звярнуцца да імёнаў нашых сучаснікаў, можна прыгадаць нямала выбітных асоб. Гэта празаік Франц Сіўко, доктар філалагічных навук прафесар Галіна Тычка, пісьменніца-казачніца Алена Масла, дзіцячая пісьменніца Наталля Бучынская.

Пра мілашоўскую старонку Чытанняў мы ведаем ужо досыць шмат, аднак Чарэя да нядаўняга часу заставалася для сяброў Мілашаў амаль невядомай. Сустрэча ў «Кніжным салоне» прыадкрыла гэтую таямніцу, тут мы даведаліся пра тое, якія пейзажы натхнялі мастака Барыса Аракчэева, чаму французам складана зразумець паэзію Аскара Мілаша, і атрымалі некалькі прывітанняў з Парыжа. Таму запрашаем:



*Няскончаная работа Барыса Аракчэева, прысвечаная Чарэі.*

## СТАНЦЫЯ ЧАРЭЯ

З вёскай Чарэя звязана імя французскага паэта-сімваліста Аскара Мілаша. Але не толькі ён можа лічыцца ў спісе знакамітых чарэйцаў. Мастачка Аксана Аракчэева падчас імпрэзы ў «Кніжным салоне» распавяла:

— Мой тата, мастак Барыс Аракчэеў, родам з Яраслаўшчыны, але вельмі палюбіў Беларусь. Мая матуля — з чарэйскіх мясцін, і бацька захапіўся прыгажосцю гэтых пейзажаў, ён нават лічыў былы мілашаўскі маёнтак сваёй другой радзімай і выказаў жаданне быць пахаваным на могілках ля вёскі Гара, што непадалёк ад Чарэі. Прыкладна за год да смерці тата казаў, што ніколі не прысвячаў вялікіх работ Чарэі. І вырашыў здзейсніць гэтую задумку: працаваў над карцінай нават у бальніцы! Але работа засталася няскончанай... Гэта ода, прысвячэнне Чарэі. Новая царква, коні, якіх тата вельмі любіў і па-майстэрску пісаў... Элементы, прадстаўленыя на карціне, складана было скампанаваць, але, думаю, гэта атрымалася, і перад намі хоць і няскончаны, але твор, які меў вельмі важнае значэнне для мастака.

На выстаўцы «Край блакітных азёр», што экспануецца ў «Кніжным салоне», прадстаўленыя менавіта тыя работы, якія Барыс Аракчэеў рабіў у вёсцы Мар'іна, непадалёк ад Чарэі. Кожны з яго пейзажаў — непаўторны. Мастак умеў адзін і той жа краявід маляваць па-рознаму.

Сябрам Мілашоўска-Мілашаўскіх чытанняў стаў Аляксандр Матафонаў, стваральнік фільма «Чарэя Аскара Мілаша». Ён заўважыў:

— Нягледзячы на тое, што Аскар Мілаш пакінуў Чарэю ў 12-гадовым узросце, ён згадваў яе як сваю радзіму і ніколі не забываў. Мілаш паехаў у Парыж, каб рэалізавацца як пісьменнік, філосаф, мысляр, аднак мы можам ганарыцца, што гэты выдатны творца нарадзіўся тут. Я чытаў, як пра Мілаша пісалі французскія крытыкі. Яго паэзія і філасофія вельмі складаныя для разумення. Нездарма ж паэта лічаць класікам французскага сімвалізму. Падаецца, што калі б мы пачалі перакладаць больш вершаў Аскара Мілаша, шукаць нешта сваё ў яго паэзіі, то, магчыма, зразумелі б гэтую творчасць лепш, чым французы.

«Я нарадзіўся 28 мая 1877 года ў маёнтку Чарэя Магілёўскай губерні. Маёнтак меў 12 тысяч гектараў зямлі, якая належала маёй сям'і з канца XVIII ст. да 1917 года. Тут нарадзілася мая любоў да прыроды, тут мой характар атрымаў змрочнае адценне. Маёнтак, якім энергічна і ўмела кіравала мая маці, быў багатым на чароўныя пейзажы. Прыгажосць паркаў і садоў рабіла яго практычна каралеўскай рэзідэнцыяй», — так пісаў сам Аскар Мілаш у аўтабіяграфіі 7 ліпеня 1929 года. Гэты ўрывак працытавала на Чытаннях краязнаўца з Чарэі Таццяна Казлоўская, якая шмат гадоў займаецца вывучэннем гісторыі сям'і Мілашаў. Таццяна Міхайлаўна распавяла:

— Так, Аскар Мілаш 12 гадоў правёў у Чарэі, але і прыязджаў туды яшчэ не раз. Пасля сваркі з бацькам прыехаў толькі пасля яго смерці, у 1902 годзе, і чатыры гады пражыў тут, спрабуючы кіраваць маёнткам. А потым яны з маці прынялі рашэнне прадаць маёнтак расійскаму банку і ўклалі грошы ў каштоўныя паперы, якія пасля 1917 года сваю каштоўнасць страцілі. На жаль, людзі, атрымаўшы бясцэнны маёнтак Сапегаў — Мілашаў, дзе захаваўся сапегаўскі замак і галерэя партрэтаў, пачалі разбураць яго. Прырода аказалася больш міласцівай да спадчыны Мілашаў. Тут захавалася ліпавая алея, засталіся і ўспаміны мясцовых пра тое, што пані Мілашыха была добрым чалавекам, шкадавала дзяцей. Стары Мілаш быў дзіўным, ён нават меў паветраны шар. Малады Мілаш не быў схільны да вядзення гаспадаркі, больш любіў чытаць, ездзіць вярхом…

Дарэчы, падчас імпрэзы госці і ўдзельнікі Чытанняў атрымалі некалькі прывітанняў з Францыі. Адно з іх — ад Пасла Беларусі ў Францыі Паўла Латушкі. «Спадзяюся, гэтае мерапрыемства атрымае паспяховае развіццё і прыцягне ўвагу аматараў беларускай культуры, што будзе садзейнічаць далейшаму пашырэнню ведаў у грамадстве пра нашу гісторыю і сучасныя дасягненні беларускіх літаратараў ды мастакоў, а таксама павышэнню нацыянальнай свядомасці», — гаварылася ў прывітальным слове Паўла Паўлавіча. Пра іншую беларуска-французскую сустрэчу распавяла Таццяна Казлоўская:

— Некалькі гадоў таму прыехаў да нас у вёску незвычайны чалавек. Француз сталага ўзросту. Ён не размаўляў ні па-руску, ні па-беларуску, нават па-англійску кепска разумеў. Але ўсё жыццё марыў прыехаць у Чарэю і ўдыхнуць паветра, якім дыхаў Мілаш, дакрануцца да зямлі, дзе той напісаў свае першыя творы. Ён распавёў, што з 1956 года ў Францыі існуе Таварыства сяброў Мілаша.

Мара француза — аматара паэзіі Аскара Мілаша здзейснілася. Магчыма, здзейсняцца і жаданні арганізатараў і ўдзельнікаў Чытанняў: пабачыць Белую царкву ў Чарэі адрэстаўраванай (дарэчы, ужо робяцца першыя крокі), наведаць музей Аскара Мілаша і прайсціся па вясковай вуліцы, названай у гонар выдатнага паэта. Можа, калі марыць усім разам, то жаданні хутчэй здзейсняцца?

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Сам-насам з гледачом



**Мецца-сапрана чароўнага тэмбру, вытанчаная спеўная культура, пачуццё стылю, майстэрскае пранікненне ў вобраз, артыстызм... Ёй неаднойчы апладзіравалі ў Германіі, Італіі, Літве, Нідэрландах, Польшчы, Францыі, Швецыі, іншых краінах, у тым ліку на прасторы СНД. Адна з найлепшых нашых спявачак, салістка і мастацкі кіраўнік Гомельскай абласной філармоніі, старшыня абласнога аддзялення Беларускага саюза музычных дзеячаў, лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне» Галіна Паўлянок адзначана нядаўна званнем народнай артысткі Беларусі.**

**— Галіна Іванаўна, ці помняцца вам самыя першыя музычныя ўражанні?**

— Першыя ўяўленні пра голас — гэта спеў маёй матулі. Жылі мы ў Гомелі ў сямейным інтэрнаце — доўгай аднапавярховай будыніне. Часта сяброўкі, суседкі збіраліся і спявалі разам на некалькі галасоў, вельмі хораша атрымлівалася. З першых уражанняў, вядома ж, — і радыё. Хто б там ні спяваў: Сяргей Лемешаў, Надзея Абухава, Валянціна Ляўко, Галіна Вішнеўская, Леанід Уцёсаў, — заўсёды слухала з вялікай увагай і трапятаннем. У душы адбывалася нешта Галоўнае... У суседкі быў патэфон, які яна ставіла на падаконне. Дык дзе б я ні гуляла, заўсёды чула музыку з акна і спынялася.

**— Спеўны голас, музыкальнасць — дар звыш. А выбару прафесіі спрыяюць яшчэ і рамантычныя мары, і зямныя акалічнасці…**

— Жыла я ў простай рабочай сям'і, пра вялікае мастацтва не мела ўяўлення. Аднак дзіўнае адчуванне, што гэта вельмі прыгожа, незвычайна, прыцягальна, пранікала ў маю душу! Тым часам уласны голас набіраў моц і не даваў мне спакою: я спявала пад грамплацінкі — разам з Вішнеўскай, з замежнымі выканаўцамі. Урэшце пайшла праслухоўвацца ў дарослы харавы калектыў Палаца культуры чыгуначнікаў. І хаця мне было 15-16 гадоў, у хор прынялі — за моцны, чысты голас.

**— Што паўплывала на імкненне займацца менавіта акадэмічнай музыкай?**

— Спевы ў хоры (вельмі, дарэчы, важная прыступка ў развіцці музыканта!) скіроўвалі на гэта, плюс навучанне. Калі паступіла ў Гомельскае музычна-педагагічнае вучылішча, мары былі толькі пра спевы. Паступова палюбіла акадэмічны вакал, адчувала, што гэта маё, сапраўднае, сур'ёзнае! Спевакам акампануюць піяністы, аркестры народных інструментаў і сімфанічныя, арганісты і камерныя ансамблі... Гэта ж Акіян Музыкі!!!

**— Чаму працягвалі навучанне менавіта ў тагачасным Ленінградзе?**

— Паступленню ў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю радавалася нядоўга. Не знайшла я, не адчула той узнёслай атмасферы на вакальным аддзяленні. Зусім зажурылася. Дапамагла мой канцэртмайстар па вакале Ніна Салдаценкава. Усё жыццё бязмежна ёй удзячная! Я вырашыла тады пераводзіцца ў Маскву, а яна сказала: «Толькі ў Ленінград!», бо сама скончыла там кансерваторыю. Дала мне адрас сваіх сяброў, дзе я магла нейкі час пажыць. У Ленінградзе ўсё зладзілася фантастычна — я паспела паўсюль: на рэпетыцыі, на праслухоўванне і добра спявала перад прафесарамі. Дэкан факультэта павіншаваў мяне і сказаў, каб пры канцы жніўня прыязджала з дакументамі. Выйшла са знакамітай кансерваторыі абсалютна шчаслівая! Вельмі хацелася трапіць у клас вакалу да прафесара Антаніны Грыгор'евай (у яе вучылася мая ўлюбёная Алена Абразцова), і тут Божачка паспрыяў: я стала яе студэнткай. Вучыцца было бясконца цікава і захапляльна!

**— Але часіна студэнцтва змянілася «творчымі буднямі» ў далёкім расійскім горадзе.**

— Першыя крокі маёй прафесійнай дзейнасці звязаныя з Новасібірскім дзяржаўным акадэмічным тэатрам оперы і балета. Там я была салісткай. Дэбют адбыўся ў прэм'еры «А дзесьці тут ціхія...» кампазітара Кірылы Малчанава — у партыі Жэні Камяльковай. Былі цікавыя партыі ў іншых операх, ды гэта самая дарагая. Оперны тэатр — калектыўны арганізм, калектыўная праца: хор, аркестр, партнёры. Усё пяецца «буйнымі мазкамі», існуе пастаянны рэпертуар, які паўтараецца... Урэшце можа здарыцца творчы застой. Але гэта не пра мяне. Ёсць багата такой вакальнай літаратуры, праз якую можна выказаць сябе, данесці да гледача самыя тонкія, самыя пранікнёныя адценні музыкі. І ў Новасібірску я выкарыстала разнастайныя магчымасці вялікага музычнага горада. Хацелася ўсё паспрабаваць, усім займацца. Працавала ў кансерваторыі, у філармоніі, з аркестрам рускіх народных інструментаў Новасібірскага радыё і тэлебачання (рабілі сумесныя запісы, гастраліравалі па Сібіры ды Урале). Спявала сольныя канцэрты. І дакладна адчувала, што гэта маё: спяваць адной сам-насам з гледачом.

**— Праз пяць гадоў працы ў Новасібірску вы вярнуліся на радзіму...**

— Заўсёды, калі купляла білет дадому, мне было гэтак добра, лёгка, надзейна. Такое пачуццё не пакідала ніколі. Калі скласліся асабістыя і жыццёвыя акалічнасці, я з'ехала ў Беларусь.

**— Складана было прыстасоўвацца да новых умоў?**

— Пасля прыезду дадому не пайшла выкладаць вакал, падлічваць акадэмічныя гадзіны, запаўняць журнал і г. д. Я знайшла ў родным горадзе філармонію. Яе — дарэчы, першую з абласных філармоній у Беларусі — адкрылі падчас майго навучання і працы на опернай сцэне. Аднак людзі, якія стваралі ў нас канцэртную ўстанову, зусім не ўяўлялі, чым яна мусіць займацца, на базе чаго ажыццяўляць творчую дзейнасць. Сам будынак павінен адпавядаць Храму Мастацтва і яго належнаму «напаўненню»! Што ж я ўбачыла? Драўляны аднапавярховік у аварыйным стане, зарослы травой двор, гараж, туалет... Я жахнулася! А жыць жа трэба ды хлеб здабываць... Дзякуй богу, тады мастацкім кіраўніком філармоніі быў адукаваны музыкант, скрыпач Андрэй Мікалаевіч Яўтуховіч. Я прадставіла складаную праграму, і калі ён слухаў мяне, пэўна, думаў: «Што гэтая дзяўчынка будзе тут рабіць?» У няпросты час Андрэй Мікалаевіч мне вельмі дапамог сцвердзіцца як сольнай спявачцы. І ўсё стала на свае месцы: папулярнасць, гастролі, запісы, запрашэнні выступіць на мерапрыемствах...

**— Прыйшло і першае афіцыйнае прызнанне — вы сталі заслужанай артысткай Беларусі. Ці спрыяла гэта новым поспехам?**

— Сваёй папулярнасцю артыст павінен займацца сам (па вялікім рахунку), астатняе прыкладзецца. Галоўнае, каб яго дзейнасць выяўляла высокі выканальніцкі ўзровень, самабытнасць, яркасць творчай асобы. Вельмі своечасова я сустрэлася з канцэртмайстрам Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Аленай Афанасьевай (гэта асобная гісторыя, у якой удзельнічалі таксама іншыя цудоўныя людзі). Музыкант з вялікай літары, дзівосны, тонкі чалавек, вялікі мой Друж! Наша супрацоўніцтва ператварылася ў яскравае творчае жыццё. Мы многае паспелі зрабіць: праграмы ў найлепшых залах краіны, запісы ў фонд Беларускага радыё больш як 80 твораў, выпуск чатырох кампакт-дыскаў (музыка ад барока да нашых дзён), гастролі ў Расіі, Германіі, Польшчы. Нашы выступленні праходзілі з вялікім поспехам. Цяпер працую з гомельскай піяністкай Таццянай Любенкай. З ёю ў нас таксама радасныя творчыя стасункі.

**— А ці захаваліся сувязі са светам вашага дзяцінства?**

— Сувязей з колішнімі суседзямі няма. Час робіць сваю справу... За 12 гадоў адсутнасці ў Гомелі ў мяне ўжо, зразумела, новыя-старыя сябры. Роднае музпедвучылішча цяпер — педагагічнае вучылішча з музычным аддзяленнем. Сюды мяне запрашаюць на розныя ўрачыстасці. Хаця там ужо новае пакаленне выкладчыкаў, яны вельмі мною ганарацца.

**— Час паўплываў і на аблічча горада. Ёсць у ім нейкія запаветныя для вас, памятныя куткі?**

— Раён, дзе я жыла ў дзяцінстве, — Цэнтральны. Вучылася ў пятым класе, калі нам з маці (яна гадавала мяне адна, бацька памёр рана) палепшылі жыллёвыя ўмовы: сем'і з інтэрната перасялялі ў асобныя кватэры. Калі прыехала з Новасібірска, аднапакаёўка была ўжо надта малая для дзвюх дарослых дам. Я «нарошчвала» сваю папулярнасць, і праз нейкі час мы з матуляй, інвалідам I групы (чатыры гады вайны на прымусовай працы ў Германіі — адкуль здароўе?), пераехалі ў двухпакаёвую кватэру ў іншым раёне. Аднойчы, праязджаючы паўз мясціны свайго маленства, я ўбачыла, што там, дзе калісьці гуляла ў хованкі, будуецца новы дом. Захацелася вярнуцца туды, дзе ўсё роднае і радаснае... І вось воляю лёсу я зноў жыву там! Увесь цэнтр Гомеля для мяне любы і дарагі. Многае змянілася да лепшага, дамы, вуліцы, скверы майго дзяцінства цяпер выглядаюць сучасна і маляўніча.

**— Цяпер вы і салістка, і мастацкі кіраўнік філармоніі. Якія праблемы даводзіцца вырашаць?**

— Самая галоўная праблема для кожнай філармоніі — творчыя кадры. У ідэале тут павінны быць выканаўцы ўсіх жанраў, прафесіяналы з вышэйшай (і пажадана не завочнай) адукацыяй. Гадоў 20 таму паняцце «артыст філармоніі» азначала інтэлект, спецыяльную адукацыю, выразныя знешнія дадзеныя — комплекс якасцей перспектыўнай творчай асобы. Сённяшні недахоп кадраў не дае напоўніцу здзейсніць задуманае. Яшчэ праблема: дагэтуль (за 47 гадоў існавання) няма свайго будынка з глядзельнай залай. Спадзяёмся, што да 50-годдзя нашай установы сітуацыя зменіцца. Прытым Гомельская абласная філармонія з'яўляецца адной з вядучых у краіне. Мы ствараем цікавыя праграмы ва ўсіх калектывах. Нашых артыстаў любяць і чакаюць.

**— Але ж столькі цяжкасцей у прапагандзе філарманічнага мастацтва!**

— На жаль, СМІ павярхоўна асвятляюць акадэмічныя напрамкі культурнага жыцця, не прапагандуюць творчасць майстроў мастацтваў. Людзі не ведаюць імёнаў нашых выдатных дзеячаў, артыстаў — народных, заслужаных, іх дасягненні. Патрэбны новыя канцэртныя залы (вялікія і камерныя) для сур'ёзнай класічнай музыкі. Людзі імкнуцца ў прыгожыя ўтульныя інтэр'еры, хочуць элегантна выглядаць падчас годнага, цывілізаванага адпачынку, які пакінуў бы прыемны ўспамін. Прывабнасць канцэртнага асяроддзя паўплывала б і на культурны кругагляд нашых сучаснікаў. У нас ёсць што слухаць, што глядзець! І апошнім часам я назіраю, як цяга людзей да Цудоўнага, Сапраўднага ўзрастае.

**— Мабыць, пэўную ролю ў гэтым адыгрываюць рупліўцы Беларускага саюза музычных дзеячаў?**

— Саюз аб'яднаў музычную эліту краіны, людзей, якія хочуць кантактаваць адно з адным дзеля супольнай справы, уносіць плённыя ініцыятывы ў музычную дзейнасць. У якасці старшыні Гомельскага абласнога аддзялення БСМД я адчула важнасць арганізацыі. Яе чальцы занятыя на асноўнай працы, аднак і на ўроках з вучнямі, і ва ўласных выступленнях, у самім стаўленні да мастацтва яны раскрываюцца як актыўныя прапагандысты акадэмічнай і класічнай музыкі. Без іх не праходзіць ніводнае значнае мерапрыемства ў горадзе і вобласці. Іх канцэрты маюць поспех і ў многіх маладых людзей, якім цікава слухаць музыку класічнага напрамку, і гэта радуе.

**— І хапае ж вам сіл на ўласныя творчыя праекты...**

— Працу мастацкага кіраўніка ўспрымаю як творчую. Для канцэртнай дзейнасці гэта толькі дапамога. Я сама сабе рэжысёр! Летам давялося наведаць фестываль «Музычныя сустрэчы на Селігеры» ў Расіі. 27 гадоў таму яго распачала Ірына Архіпава. Фестываль традыцыйны, людзі яго чакаюць. Запрасілі выступіць там Камерны хор нашай філармоніі ды мяне (Алене Сакаловай, мастацкаму кіраўніку хору, улетку нададзена званне заслужанага дзеяча культуры Беларусі. — **С. Б.**). Прайшло «на ўра». А я нібы апынулася ў свеце свайго дзяцінства: высокая трава, невялікія ўтульныя дамкі, няма святлафораў, шмат цэркваў... Возера з чысцюткай вадой. Знакаміты манастыр, сабор — усё на востраве!

**— Фэст на Селігеры заснавала самая тытулаваная спявачка былога СССР і Расійскай Федэрацыі, якая ўзначальвала Міжнародны саюз музычных дзеячаў. Легендарная Архіпава любіла прыязджаць у Беларусь, выступала з канцэртамі, апекавалася праблемамі БСМД. Часта наведвалася ў Гомель, дзе жылі яе бацькі... Ці не ўзнікла ў вас ідэя ажыццявіць, напрыклад, летні фестываль-праект Галіны Паўлянок «Музыка над Сожам»?**

— Цудоўная ідэя! Я пра гэта ўжо думала... А пакуль у мяне — новыя канцэртныя праграмы. «Прысвячэнне Н. А. Абухавай» (расповед пра жыццё і камерную творчасць спявачкі, творы з яе рэпертуару). У 2015 годзе — «Вечар высокіх рамантычных пачуццяў» (класіка, рамансы ды іншае). Увесь час думаю пра будучыню: што яшчэ не зрабіла, дзе не была, што яшчэ праспяваць для гледача, з кім сустрэцца, што здзейсніць добрае для людзей? І жыццё здаецца бясконцым.

*Святлана БЕРАСЦЕНЬ*




Новы аўдыёальбом артысткі «Выбранае» ўключае самыя розныя вакальныя кампазіцыі: арыі Г. Гендэля, Дж. Пергалезі, А. Скарлаці, творы нашых суайчыннікаў, рускую класіку, папулярныя рамансы... У багатым рэпертуары Галіны Паўлянок асаблівае месца займае старадаўняя камерная музыка, праз якую ўнікальны голас выканаўцы набліжаецца да эталоннага інструментальнага гучання, дэманструючы высокае майстэрства спявачкі, яе тонкае адчуванне стылёвых нюансаў. Варта паслухаць!

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

*Слова краязнаўцы*



**Ірына Воднева, загадчык Краязнаўчага музея, філіяла Нацыянальнага полацкага гісторыка-культурнага музея-заказніка, распавядае пра даследчую працу, якая праводзілася да 100-годдзя пачатку Першай сусветнай вайны:**

— Летась супрацоўнікі музея пачалі працаваць у Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі, каб вывучыць дакументы з фондаў канцылярыі Віцебскага губернатара і Віцебскага губернскага праўлення, Полацкай гарадской і земскай управ, Віцебскай інспекцыі народных вучылішчаў. Гэтыя матэрыялы дапоўнілі небагатыя звесткі пра асобныя аспекты жыцця прыфрантавога Полацка і далі ўяўленне пра дзейнасць дзяржаўных, грамадскіх, армейскіх устаноў і арганізацый, размешчаных на тэрыторыі аднаго з тылавых цэнтраў Дзвінскай ваеннай акругі.

Сярод прааналізаваных дакументаў — цыркуляры, рапарты, лісты, распараджэнні, спісы… Дзякуючы ім мы ведаем пра размяшчэнне ў Полацку шпіталяў абшчыны Святога Георгія, Усерасійскага саюза гарадоў, Усерасійскага земскага саюза, арганізацыі «Северопомощь» ды інш. Шпіталі і лазарэты размяшчаліся ў адміністрацыйных і навучальных установах, манастырах. Для бежанцаў былі адкрыты пункты харчавання, склады цёплага адзення, школы.

У гады вайны горад ператварыўся ў цэнтр не толькі медыцынскіх устаноў, але і майстэрняў па рамонце тэхнікі. На ўскрайку Полацка абсталявалі ваенны аэрадром, праз горад праклалі вузкакалейкі. Шмат матэрыялаў і пра дзейнасць чыгункі. Неаднаразова ў дакументах звярталася ўвага на адкрыццё і ўтрыманне на станцыях лазарэтаў і пунктаў харчавання для бежанцаў, пастаянна складаліся спісы дэзерціраў і атручаных газамі.

Новыя архіўныя матэрыялы былі пакладзены ў аснову музейна-педагагічных заняткаў для вучняў старэйшых класаў (у мінулым навучальным годзе наведала каля дзясятка груп). Прааналізаваўшы навуковыя і навукова-папулярныя выданні апошніх гадоў, выкарыстаўшы архіўныя матэрыялы, супрацоўнікі музея падрыхтавалі некалькі дакладаў і ўзялі ўдзел у дзвюх навуковых канферэнцыях — «Да пытання пра сацыяльнае становішча ў Полацку падчас Першай сусветнай вайны» і «Першая сусветная вайна ў лёсе Полацкага Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра». Наперадзе — канферэнцыі ў Вілейцы, Віцебску, Наўене (Латвія).

З нагоды 100-годдзя пачатку Першай сусветнай вайны ўжо рэалізаваны цікавыя выставачныя праекты. Так, з Брэстчыны прывезлі экспазіцыю «На Заходнім фронце без змен», якую наведала больш як 700 чалавек. Хутка распачнём сумесны праект Краязнаўчага музея і Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы «Я — шлях, якому век няма спакою...». У выставачнай зале будуць прадстаўлены ўнікальныя фотаматэрыялы часоў Першай сусветнай вайны, калі лёс прывёў Янку Купалу ў Полацк, дзе паэт служыў у дарожна-будаўнічым батальёне Варшаўскай акругі шляхоў зносін. Да выстаўкі падрыхтавалі відэафільм, які распавядзе пра жыццё Купалы на Полаччыне, пра яго знаёмства з некаторымі жыхарамі Паўночнай Беларусі, пра цыкл вершаў, прысвечаных падзеям Першай сусветнай, а таксама сувязь творцы з Полацкам у другой палове XX стагоддзя.

*Музейны ўнікат*

# Легенда для студэнта



*Зборнікі Анатоля Зэкава, членскі білет Саюза пісьменнікаў СССР Анатоля Казлова, экслібрысы творцаў.*

**Літаратурны музей «Alma mater» адкрыўся ў Гомельскім універсітэце імя Францыска Скарыны. Гісторыя ўстановы бярэ пачатак з 1930-х гадоў. Тады (яшчэ ў педагагічным інстытуце імя В. Чкалава) вучыліся Іван Шамякін, Леанід Гаўрылаў, Мікола Сурначоў, Кастусь Кірэенка, Паўлюк Пранузa.**

Усе яны ваявалі на франтах Другой сусветнай вайны. Л. Гаўрылаў і М. Сурначоў загінулі, абараняючы Радзіму. У экспазіцыі прадстаўлены цікавыя ўспаміны І. Шамякіна пра гады навучання ў Гомельскім педінстытуце. А ўжо з Гомельскага ўніверсітэта выйшлі такія адметныя творцы, як лаўрэат Дзяржаўнай прэміі М. Башлакоў, А. Казлоў, В. Ярац, А. Сыс, А. Зэкаў, М. Даніленка.

У экспазіцыі прадстаўлена таксама і творчасць сённяшніх студэнтаў, выпускнікоў апошніх гадоў: А. Бараноўскага, Г. Новік, С. Кацюргіной, М. Маліноўскай, Я. Малевіча, Н. Філон.

Творчасці музыкаў і бардаў прысвечаны раздзел «Універсітэт песенны»: творы Э. Акуліна, А. Мельнікава, З. Вінаградава, З. Сасноўскага, В. Цярэшчанкі. Менавіта ў нашай ВНУ быў створаны першы беларускамоўны гурт.

Асобны раздзел экспазіцыі прадстаўляе работы выкладчыкаў універсітэта і навуковую дзейнасць кафедры беларускай літаратуры, дзе праводзіцца значная работа па вывучэнні жыцця і творчасці выпускнікоў, землякоў. Пад рэдакцыяй Івана Штэйнера ў 1998 г. выдадзена анталогія лірыкі сяброў літаб'яднання «Крыніцы», якая змяшчае творы знакамітых выпускнікоў, напісаныя ў студэнцкія гады або тэматычна звязаныя з горадам юнацтва і ўніверсітэтам.

У 1999 г. пад рэдакцыяй І. Штэйнера пабачыў свет зборнік крытычных артыкулаў «Душа прычаліца крылом да неба…», дзе творчыя партрэты колішніх студэнтаў разглядаюцца праз прызму бачання студэнтаў канца 1990-х гадоў. Напярэдадні 75-гадовага юбілею Гомельскага ўніверсітэта, у 2003 г., пад рэдакцыяй І. Штэйнера ды І. Бароўскай падрыхтаваны зборнік «Універсітэт літаратурны. Універсітэт песенны». А да 80-годдзя ВНУ выйшаў зборнік «Alma mater universitatis».

Гомельскі ўніверсітэт ганарыцца тым, што менавіта ў яго сценах выхоўваўся А. Сыс. Выкладчык паэта І. Штэйнер прысвяціў яму кнігу «Свае руны мне не вышыць…: спадчына Анатоля Сыса». Даследчык сцвярджае: «Жыццё і творчасць А. Сыса — гэта своеасаблівы эксперымент, праведзены нейкай сілай з адпаведнай мэтай — вызначыць змест, сутнасць, перспектывы развіцця беларускага прыгожага пісьменства мінулага стагоддзя. А ягоная творчасць — гэта «кароткі паэтычныя курс» (М. Багдановіч) усёй беларускай паэзіі, развага аб яе значнасці і незапатрабаванасці, ідэалах і арыенцірах». Постаць А. Сыса сёння — легенда для сучасных студэнтаў. А які ўніверсітэт без сваёй гісторыі, міфалогіі, славутасцей?

Рэгіянальныя даследаванні, асэнсаванне творчасці пісьменнікаў Гомельшчыны, — адзін з вызначальных напрамкаў дзейнасці кафедры беларускай літаратуры, пры якой працуе краязнаўчая навуковая лабараторыя «Гомельшчына літаратурная», чытаецца аднайменны спецкурс. Сістэматычна праводзяцца Міжнародныя навуковыя канферэнцыі «Рэгіянальнае, нацыянальнае і агульначалавечае ў літаратуры», удзел у якой бяруць вядучыя даследчыкі Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, славісты Германіі, Харватыі, Сербіі, Чарнагорыі, Славеніі, Вялікабрытаніі.

Спадзяёмся, што літаратурны музей будзе спрыяць захаванню атмасферы творчасці, традыцый, пераемнасці паміж пісьменнікамі розных часоў.

**Анжэла МЕЛЬНІКАВА**

# Старадаўнім шляхам



Трапіць у сапраўднае сярэднявечча можна было ў мінулую нядзелю на беразе Нёмана. У горадзе Бярозаўка Лідскага раёна пачаўся фестываль «З варагаў у грэкі».

Пры музеі жывой гісторыі «Панёманскае гарадзішча» быў пабудаваны баявы карабель эпохі вікінгаў. Гэта стала незвычайнай падзеяй як для мясцовых жыхароў, так і для шматлікіх гасцей з іншых гарадоў. Пачатак фэсту — спуск ладдзі на ваду.

Ажыццявіць гэты праект удалося траім энтузіястам з Ліды — Дзмітрыю Вараноўскаму, Аляксею Карандзею і Паўлу Дарафею. Карабель пабудаваны ў адпаведнасці з чарцяжом, які хлопцы атрымалі з дацкага музея, і максімальна падобны да арыгінала эпохі ранняга Сярэднявечча — нарвежскае судна вікінгаў «Гокстад». Даўжыня ладдзі — амаль 14,5 м, шырыня — 3 м, вышыня мачты — 7,5 м.

— Будаваць карабель мы пачалі ў красавіку і закончылі літаральна ўчора, — распавёў Аляксей Карандзей. — У Беларусі ён — першы.

У фестывалі таксама возьме ўдзел судна «Фрэя» з горада Херсона (Украіна). З Бярозаўкі ладдзі па Нёмане выправяцца далей — у Масты, а потым у Гродна. Гэта будзе сапраўдная лодачная экспедыцыя з прыпынкамі варажскага флоту ў прыбярэжных населеных пунктах, так званых вялікіх стаянках фэсту. На кожным прыпынку будзе разбіты сярэднявечны лагер. Шматлікія ўдзельнікі рыцарскіх клубаў з розных краін пакажуць воінскае майстэрства. На тэрыторыі варажскага лагера для гледачоў увесь дзень будзе працаваць сярэднявечнае стрэльбішча, дзе аматарам прадставяць некалькі відаў лукаў, кідальных сякер і коп'яў. «Вялікія стаянкі» пазнаёмяць наведвальнікаў з культурай усходніх славян, плямёнаў балтаў і скандынаўскіх вікінгаў.

Фестываль запланаваны як штогадовае міжнароднае мерапрыемства, якое будзе праходзіць кожны раз на розных судаходных шляхах мінулага, тым самым аднаўляючы легендарны шлях «з варагаў у грэкі». У мерапрыемстве возьмуць удзел беларускія і ўкраінскія фолк-групы.

24 верасня першая беларуская ладдзя прыбыла ў Масты. Месцам варажскага лагера стала ўрочышча «Міхайлоўка». Заўтра карабель завітае ў Гродна.

У арганізатараў і непасрэдных удзельнікаў фэсту шмат цікавых задумак. Юнакі, у прыватнасці, мараць прайсці на варажскіх караблях па Дняпры да Кіева, а па Нёмане трапіць у Балтыйскае мора.

У вольны ад «вялікага плавання» час ладдзя будзе знаходзіцца ў музеі «Панёманскае гарадзішча» ў Бярозаўцы. Дарэчы, музей энтузіясты таксама ствараюць самі.

**Вольга АЛЯКСЕЕВА, фота аўтара**

*Суайчыннікі*

# Вяртанне ў родны кут

Нядаўна я браў удзел у II фестывалі мастацтваў беларусаў свету, які праходзіў у Мінску. Праграма фэсту прадугледжвала і творчую сустрэчу пісьменнікаў беларускага замежжа ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа (літаратурная гадзіна з прадстаўленнем твораў аўтараў, гасцей фестывалю і з удзелам членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі).

Паэтаў з былога СССР прысутнічала трое: апроч мяне, а я прадстаўляў Украіну, былі мае сябры Станіслаў Валодзька з Латвіі і Віталь Бартохаў з Крыма. З Польшчы прыехалі Міра Лукша, Кацярына Сянкевіч і Віктар Стахвюк.

Радкі з паэмы Якуба Коласа «Новая зямля» «Мой родны кут, як ты мне мілы, забыць цябе не маю сілы...» жывуць у душы кожнага беларуса, які па волі лёсу апынуўся за межамі радзімы.

Сапраўднае ж маё адкрыццё Якуба Коласа пачалося дзякуючы спадарыні Зінаідзе Камароўскай, дырэктару музея, якая перадала нам сваё захапленне дзядзькам Якубам. Да гэтага маімі кумірамі ў беларускай літаратуры былі Янка Купала, Максім Багдановіч, Уладзімір Караткевіч, Кандрат Крапіва і Васіль Быкаў. Не, я ведаў творчасць Якуба Коласа са школьнай праграмы, але пасля прагляду экспанатаў музея і расповеду экскурсавода, спадарыні Ірыны Казловіч, зусім па-іншаму пачаў ставіцца да гэтага генія нашага народа!

Пасля экскурсіі нас запрасілі ў гасцёўню паэта. Сабралася шмат наведвальнікаў. Сярод іх я заўважыў Навума Гальпяровіча, голас якога чую ў радыёперадачах з Беларусі для нас, замежнікаў. Пачалася ж сустрэча з неўміручага гімна «Мой родны кут...», які адмыслова выканалі выкладчыкі Мінскага каледжа мастацтваў Ірына Чубікава і Наталля Міронава (акампаніятар).

Далей слова ўзялі літаратары. Я прачытаў мікрабайку «Хай спявае!», Станіслаў Валодзька — лірычныя вершы, а Віталь Бартохаў паказаў сябе цудоўным чытальнікам прозы Якуба Коласа... Своеасаблівая падляшская гаворка гучала з вуснаў Міры Лукша і Віктара Стахвюка. Запомніліся выступленні старшыні Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхася Пазнякова, барда Ганны Чумаковай, паэтэс Аліны Легастаевай, Іны Фраловай.

На памяць пра наша наведванне Дома Коласа яго гаспадыня падарыла кожнаму буклет «Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа» і зборнік вершаў «Песня натхнення», укладальнікам якога з'яўляецца яна. А яшчэ наш гурт беларускай культуры «Зорка Венера» атрымаў у падарунак кнігу пра Якуба Коласа з серыі «Жыццё знакамітых людзей Беларусі», якую склаў сын паэта Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч! Усе прывезеныя з Мінска выданні занялі годнае месца на выстаўцы беларускай літаратуры і СМІ Беларусі «Год беларускай культуры ў Ізяславе».

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**кіраўнік гурта беларускай культуры «Зорка Венера», г. Ізяслаў (Украіна)**

# Стратэгія маркетынгу

**Міжнародны «круглы стол», прысвечаны асаблівасцям пазіцыянавання музея ў сучасным грамадстве, прайшоў у Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа. У абмеркаванні ўзялі ўдзел кіраўнікі і спецыялісты ўстаноў Беларусі, Расіі і Літвы.**

Чым зацікавіць наведвальнікаў? Гэта галоўнае пытанне, якое хвалюе супрацоўнікаў музеяў сёння. Асноўная аўдыторыя — школьнікі, а таксама аматары творчасці пісьменніка. Астатнія ў лепшым выпадку наведаюць музей раз у жыцці ці ўвогуле не прыйдуць. Удзельнікі сустрэчы падзяліліся думкамі, як можна ўзняць прэстыж музея ў сучасным грамадстве і прыцягнуць да яго ўвагу насельніцтва.

Супрацоўнікі Дзяржаўнага літаратурнага музея Якуба Коласа, напрыклад, рэгулярна праводзяць маніторынг аўдыторыі, вывучаюць псіхалогію і інтарэсы жыхароў горада. «Да кожнай з сацыяльных і ўзроставых груп мы імкнёмся падысці індывідуальна, прапанаваць цікавыя мерапрыемствы», — зазначыла Марыя Казакевіч, загадчык аддзела навуковай прапаганды гэтай установы.

Музей сапраўды праводзіць шмат культурных акцый для дзяцей і дарослых. Прынамсі, літаратурныя чацвяргі, сустрэчы з літаратарамі і паэтамі, вечары класічнай музыкі, кватэрнікі. Нядаўна распачалі новы праект «Творчыя сем'і ў доме Коласа», які аб'ядноўвае сем'і мастакоў, музыкантаў, народных майстроў. Для самых маленькіх наведвальнікаў працуе дзіцячая творчая майстэрня, таксама прапанаваны адукацыйны праект «Крочым у школу разам з Коласам», які дапамагае падрыхтавацца да вучобы, пазнавальна і весела правесці час.

«Яшчэ адна вялікая праблема мемарыяльных музеяў — нязменная экспазіцыя», — адзначыла Лідзія Пушкарова, загадчыца Санкт-Пецярбургскага музея-кватэры А. Блока. Сапраўды, навошта чалавеку яшчэ раз прыходзіць у музей, калі ён ужо бачыў усе экспанаты? Супрацоўнікі падышлі да рашэння гэтай праблемы наступным чынам: акрамя асноўнай экспазіцыі, прапануюць новыя выстаўкі, звязаныя з «блакаўскай» эпохай.

Ёсць і інтэрактыўны зал, дзе кожны можа паслухаць вершы паэта ў выкананні артыста, паглядзець дакументальныя фільмы, прысвечаныя Блоку. Але, напэўна, самы грандыёзны праект — экскурсія па «блокаўскім» Пецярбургу, месцах, дзе любіў шпацыраваць класік. Маркетынгавая стратэгія музея ўжо мае станоўчыя рэзультаты: асноўную аўдыторыю сёння складаюць людзі, якія прыходзяць сюды па ўласным жаданні.

На сустрэчы таксама прысутнічалі госці з Літвы: Шарыенэ Рамунэ (Дом-музей В. Мікалайціса-Пуцінаса) і Ёзенайтэ Юсціна (Дом-музей сям'і Венцлава). Літоўскія мемарыяльныя ўстановы арганізуюць канцэрты і фестывалі, тэатральныя прадстаўленні і нават лазерныя шоу! Папулярызаваць гэтыя праекты дапамагае рэклама ў блогах і сацыяльных сетках, на радыё і тэлебачанні. Правядзенне «круглых сталоў» у доме Коласа стала добрай традыцыяй. Гэта ўжо трэцяя сустрэча, на якой спецыялісты розных краін падзяліліся думкамі, вопытам і ідэямі. Удзельнікі дамовіліся, што будуць абменьвацца і выстаўкамі.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

*Вытокі*

# Самабытнасць на дошчачках



**Спазнаць асаблівасці пляцення беларускіх традыцыйных паясоў у адмысловай тэхніцы можна было на майстар-класе, які праходзіў у межах выстаўкі «Самабытныя вобразы сучаснасці» ў Музеі беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах. Увазе гледачоў была прадстаўлена тэхніка пляцення на дошчачках з дзвюма ніткамі, якую рэканструявала манахіня Васа (Вера Селівончык).**



*Фота Наталлі Святловай*

— Справа доўга не паддавалася рэканструкцыі, бо ўсе спрабавалі ткаць гэта на ніту, — распавяла манахіня Васа. — Пра дошчачкі ніхто нават і не здагадваўся. Возьмеш пояс на дошчачках і пояс на ніту — не адрозніш. А калі намалюеш схему… Загадак было многа, але ўсё ж атрымалася! Асаблівасць гэтай тэхнікі ў тым, што ў дошчачкі запраўляецца дзве ніткі замест чатырох.

Дасведчанасць манахіні грунтуецца на прафесійнай адукацыі. Скончыла Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут па спецыяльнасці «Мастацтвазнаўства». Дыплом пісала на тэму «Ткацтва і вышыўка Падняпроўя». Працяглы час працавала ў навукова-даследчай эксперыментальнай лабараторыі (цяпер — «Скарбніца»). Даследаванні Веры Селівончык увасобіліся ў практычны дапаможнік «Ткацтва на дошчачках», дзе змешчана апісанне тэхналогіі вырабу паясоў, прыёмаў ткання.

— Вера Іванаўна вывучае шматлікія музейныя калекцыі традыцыйных народных паясоў у розных музеях Беларусі, — паведаміла куратар мерапрыемства Вікторыя Пракошына, малодшы навуковы супрацоўнік навукова-фондавага аддзела Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, захавальнік калекцыі прыкладнога народнага мастацтва і культавых тканін. — Даследчыца рэканструявала паясы, якія маюцца ў Нацыянальным мастацкім і Нацыянальным гістарычным музеях Беларусі, Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту.

Прысутныя сталі сведкамі «нараджэння» традыцыйнага пояса на квадратных дошчачках. Інакш як чараўніцтвам гэта не назавеш! Пальцы майстрыхі таропка і ўмела перахоплівалі дошчачкі, ніткі мільгалі то ўверсе, то ўнізе. Ці рэальна зразумець гэтую вышэйшую матэматыку пляцення? Удзельнікі атрымалі ўнікальную магчымасць не толькі паназіраць за віртуозным пляценнем, але і паспрабаваць сябе ў гэтым рамястве.

Загадчыца Музея беларускага народнага мастацтва Таццяна Андрыевіч прадэманстравала пояс, які спляла сама. Гэтая тэхніка даступна для шырокага кола аматараў. Дошчачкі можна зрабіць з розных матэрыялаў, нават з пластыкавых картак. Так, мы можам авалодаць уменнямі нашых продкаў і пры гэтым атрымаць маральнае задавальненне.

Назіраючы за юнымі пераемніцамі рамяства, здзівілася: адкуль у іх столькі азарту і запалу? Ці не пасаг рыхтуюць? «Я страляю з лука. Мне трэба падрыхтаваць касцюм для фестывалю ў народным стылі. Спатрэбіўся пояс. Можна, канечне, купіць ці заказаць… Але калі даведалася пра майстар-клас, захацелася сплесці самой», — прызналася Аляксандра Уцехіна. А хтосьці прыйшоў на майстар-клас па новыя веды, як, напрыклад, студэнтка гістарычнага факультэта БДУ Паліна Бандарэнка, якая піша навуковую працу пра жаночую вопратку другой паловы XX стагоддзя.

**Наталля СВЯТЛОВА**

# Без пяці... стагоддзе

Музею Гомельскага палацава-паркавага ансамбля спаўняецца сёлета 95 гадоў. Што ўяўляе сабой установа цяпер? Колькі калекцый і ўнікальных рарытэтаў сабралі і захоўваюць яе супрацоўнікі? Адказы на гэтыя і іншыя пытанні можна знайсці на выстаўцы «Музею — 95», якая адкрылася ў межах II Нацыянальнага форуму «Музеі Беларусі».

Экспазіцыя прысвечана не толькі гісторыі стварэння ўстановы, але і гісторыка-мастацкай спадчыне сям'і князёў Паскевічаў. Гэта падарункі каранаваных асоб, выраблены ў адзінкавым экзэмпляры па спецыяльнай замове, каштоўныя ўзоры зброі, узнагароды, ювелірныя вырабы, прадметы мастацкай бронзы, фарфор, жывапісныя палотны…

Частка фамільных каштоўнасцей Паскевічаў знаходзілася ў іх пецярбургскім асабняку на Англійскай набярэжнай. Пасля рэвалюцыі значная колькасць твораў мастацтва з гэтага збору паступіла ў Дзяржаўны Эрмітаж. На выстаўцы можна пабачыць малюнкі 40 прадметаў, прадстаўленых Эрмітажам. Яшчэ раней адтуль былі атрыманы копіі ўнікальных фотаздымкаў з панарамнымі відамі і інтэр'ерам палаца Паскевічаў 1860-х гадоў, зробленых пецярбургскім фатографам Джавані Біянкі. Яны таксама прадстаўлены ў экспазіцыі.

Шэраг фотаздымкаў, дакументаў і розных прадметаў сведчаць пра вельмі складаны перадваенны перыяд станаўлення музея, пра яго каштоўныя набыткі і вялікія страты.

Сёння зборы музея Гомельскага палацава-паркавага ансамбля налічваюць каля 200 тысяч музейных прадметаў. Археалагічныя знаходкі, выяўленчае і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, ткацтва і вышыўка, узбраенне, нумізматыка, рукапісы і рукапісныя кнігі, друкаваныя выданні, фотаздымкі, дакументы. На выстаўцы прадстаўлены найбольш цікавыя рэчы з некаторых калекцый, асобным блокам — новыя паступленні ў фонды за апошнія пяць гадоў. Тут жа можна пабачыць і ўзнагароды, дыпломы, граматы, публікацыі супрацоўнікаў музея, якія сведчаць пра тое, што ўстанова дынамічна развіваецца.

**Раіса МАРЧУК**

# Філасофія зменлівасці

**У пачатку XVII стагоддзя палкаводзец Такугава Іэясу (1543 — 1616) заснаваў на месцы невялікай вёсачкі новую сталіцу Японіі — горад Эда (цяпер Токіа). У так званую эпоху Эда (1603 — 1869) у грамадстве сфарміравалася новая філасофія «хуткаплыннага свету» укіё: належала спазнаць усе радасці, пакуль яны не зніклі ці пакуль не падышло да канца жыццё. У выяўленчым мастацтве склаўся новы стыль, які аб'яднаў жывапіс на скрутках і гравюру укіё-э («карціны хуткаплыннага свету») — увасабленне багатай на падзеі гарадской паўсядзённасці.**



Кацукава Сюнсё «Ветраны дзень. Готэн'яма». З серыі «Восем відаў Сінагава». Каля 1770 г.

Першыя чорна-белыя гравіраваныя выявы сталіся ілюстрацыямі да апавяданняў. Пераважная частка гарадскога насельніцтва была пісьменнай, і недарагія кнігі, выдадзеныя ў тэхніцы ксілаграфіі (гравюры на дрэве), карысталіся пастаянным попытам. А самастойным відам мастацтва гравюра стала ў першай палове XVII стагоддзя, калі выявы пачалі паступаць у продаж асобнымі аркушамі.

У першыя дзесяцігоддзі развіцця укіё-э найбольш запатрабаванымі аказаліся два жанры: бідзінга («адлюстраванне прыгажунь») і якуся-э («адлюстраванне акцёраў»). Аркушы з «партрэтамі» знакамітых куртызанак Ёсівара і папулярных акцёраў кабукі выконвалі тут функцыю рэкламы ці тэатральнай афішы.

З імем Судзукі Харунобу (1725[?] — 1770) звязана з'яўленне ў ксілаграфіі першага «вялікага стылю»: ён зрабіў спробу сумясціць тэматыку укіё-э з узнёслай атмасферай класічнага японскага жывапісу IX — XI стст. («Гатаванне гарбаты», «Фукуракудзю ў «цырульні»», «Размова ў Ёсівара»). Сярод яго паслядоўнікаў — Ісода Карусай (1735 — 1790) ды Іпіцусай Бунцё (працаваў прыкладна ў 1755 — 1792). У ранніх творах манеры Харунобу прытрымліваўся і Кацукава Сюнсё (1726 — 1793), які, аднак, пазней аддаў перавагу працы ў жанры якуся-э («Сэгава Кікунодзё III у ролі куртызанкі Каёідзі», «Акцёр Іцікава Дандзо IV у ролі Она Садакуро», «Акцёры Іцікава Камадзо III, Іцікава Манасукэ II і Сэгава Кікунодзё III»).

Кітагава Утамара (1754 — 1806) — майстар жанру бідзінга. У партрэтах прыгажунь окубі-э («вялікія галовы»), як, напрыклад, «Жонка [купца] сярэдняга рангу», ён увасобіў ідэалізаваны тып жанчыны. Найбольш вядомыя пейзажысты укіё-э — Кацусіка Хакусай (1760[?] — 1849) і Андо Хірасігэ (1797 — 1858). У сваіх творах яны надавалі вялікую ўвагу дакладнаму адлюстраванню рэчаіснасці.

Дамінавала ж у мастацтве укіё-э XIX ст. школа Утагава. У майстэрні яе заснавальніка Утагава Таёкуні прайшлі навучанне выбітныя мастакі Утагава Кунісада (1786 — 1864) і Утагава Куніёсі (1798 — 1861). Кунісада, які пачынаў з бідзінга, пазней стаў стварацць эскізы ў асноўным для тэатральнай гравюры, а Куніёсі ў перыяд творчай сталасці спецыялізаваўся на ваенна-гістарычным жанры.



Кэйсай Эйсэн «Оі з чайнага дома Эбія». Аркуш з трыпціха. 1830-я гг.

У Нацыянальным мастацкім прадстаўлена творчасць і такіх майстроў японскай гравюры, як Торыі Кіёнага (1752 — 1815), Кэйсай Эйсэн (1790 — 1848), Рэкісэнтэй Эйры (працаваў у 1790 — 1800).

— Гэты праект — вынік падпісання ў сакавіку 2012 года Дагавора аб супрацоўніцтве паміж Дзяржаўным Эрмітажам і Нацыянальным мастацкім музеем Рэспублікі Беларусь, — падкрэсліла куратар выстаўкі, вядучы навуковы супрацоўнік аддзела рускага і замежнага мастацтва музея Алена Сянькевіч. — Наведвальнікі маюць магчымасць пабачыць сфарміраваную, цэласную калекцыю японскіх гравюр. Любая экспазіцыя — заўсёды адкрыццё. Гарадская культура эпохі Эда — вялікі гістарычны пласт мастацтва, пазнаёміцца з якім у нашай краіне можна нячаста.

Прадстаўленыя на выстаўцы работы сведчаць пра шматпланавасць японскай мастацкай культуры, вылучаюцца эстэтычнай вытанчанасцю. Безумоўна, гэта неад'емная частка залатога фонду сусветнага выяўленчага мастацтва.

**Яна ЯВІЧ**

# Шыварат-навыварат!

Яе карціны міжволі хочацца назваць добрымі, сонечнымі, казачнымі… Мастачка Ганна Сілівончык не хавае, што творчасць — люстэрка асабістых пачуццяў і эмоцый. У галерэі «Інстытут культуры» адкрылася персанальная выстаўка творцы — «Шыварат-навыварат».

Ганна Сілівончык — яркая постаць у асяроддзі сучасных беларускіх жывапісцаў. Яе работы прэзентуюцца на выстаўках па ўсім свеце. Акрамя напісання карцін ілюструе дзіцячыя кнігі, піша казкі і вершы, працуе над мультфільмамі і спектаклямі. Творчы стыль мастачкі вельмі індывідуальны, яе работы лёгка пазнаць сярод іншых. Фантазія не ведае межаў: у сваёй творчасці Ганна Сілівончык стварыла цэлы свет незвычайных, чароўных вобразаў.

Карціны вельмі падобныя на ілюстрацыі да нейкай дзіўнай кнігі казак. Калі толькі пачынаеш глядзець на іх, можа падацца, што трапіў у іншы, фантастычны свет, дзе магчыма ўсё, дзе збываюцца самыя неверагодныя мары і сны, здараюцца цуды,ператварэнні… І толькі потым становіцца зразумела: сюжэты карцін узятыя не з казкі, а з рэальнага жыцця. Работы мастачкі — разважанні пра нашу рэчаіснасць. І глядзіць яна на яе нібы праз чароўнае каляровае шкло. Малюе тое, што ўражвае, захапляе, здзіўляе… Атрымліваецца гэткі калейдаскоп эмоцый, думак, пачуццяў.



«Птушкалоў». 2014 г.



«Белыя семкі». 2014 г.

Кожная яе карціна — нібы тэатральная дзея, дзе ўсё існуе па ўласных законах. Ёсць тут месца фантазіі і рэальнасці, тонкай іроніі і філасофіі. На палотнах дамінуюць яркія колеры. Ганна Сілівончык падкрэслівае, што ў яе карцін няма нейкага канкрэтнага, «правільнага» тлумачэння: кожны можа ўспрымаць творчасць мастачкі па-свойму. Але пазітыўную, светлую энергетыку і станоўчыя эмоцыі на выстаўцы атрымаюць усе!

**Ганна ПАЛЯКОВА**


Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Рэдакцыйная калегія:
Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Пры передруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004 г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2296.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 02.10.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4109.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686